Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень
у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 92 (4344)

20 лістапада 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АНОНС

## Пражорлівы дзяржаўны апарат…

Даследаваўшы больш за 200 бюджэтаў краін свету, я ні ў адным з іх не знайшоў, каб на артыкул «Дзяржаўнае будаўніцтва» выкарыстоўвалася больш палова бюджэту. Назавіце, калі ласка, больш забюракратызаваную краіну, чым наша? Няма такой!

*(Роздум на гэту звышхвалюючую тэму дацэнта, сацыёлага **Васіля Русовіча** чытайце на 3-й стар.)*




ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## Азербайджан – у стратэгічных партнёрах!

Не злічыць, колькі ў нас надзейных стратэгічных партнёраў! Вось і Азербайджан заняў пачэснае месца ў спісе асноўных сяброў Беларусі, пра што ўчора было сказана А.Лукашэнкам падчас перамоў у пашыраным складзе з прэзідэнтам Азербайджана Ільхамам Аліевым і членамі яго дэлегацыі.

У сумесным заяве Аляксандра Лукашэнкі і Ільхама Аліева падкрэслівaецца, што сяброўства і супрацоўніцтва дзвюх краін набываюць новы якасны ўзровень. «*Мы падтрымліваем адзін аднаго па ўсіх пытаннях, і гэта падтрымка мае, я сказаў бы, аўтаматычны характар, нават без абмеркаванняў, кансультацый, узгадненняў*», – заўважыў азербайджанскі прэзідэнт.

Вядома ж, перамовы А.Лукашэнкі і І.Аліева прайшлі і з вока на вока. Што ж, ёсць і такія пытанні, якія патрабуюць канфідэнцыяльнасці. Галоўнае, каб ад гэтага выйгралі інтарэсы двух народаў – беларускага і азербайджанскага. І тут час пакажа…




ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ

## У гонар Слуцкага паўстання

24 лістапада ў Слуцкім доме культуры пройдзе святочны канцэрт, прымеркаваны да 98-х угодкаў Слуцкага паўстання. На ім з сольнай праграмай выступяць Лявон Вольскі, гурты «Харачакра» і «Zanzibar», а таксама паэт Андрэй Хадановіч. «*Канцэрт будзе бясплатны*, – тлумачыць грамадская актывістка Аліна Нагорная, – *наша мэта – зрабіць свята для жыхароў Слуцка і на высокім узроўні адсвяткаваць Дзень Герояў. Слуцкае паўстанне – гэта выбітная старонка гісторыі Слуцка і ўсёй нашай краіны. Дзень Герояў, 27 лістапада, штогод святкуецца беларусамі па ўсім свеце, у Германіі нават ёсць помнік слуцкім паўстанцам. У Слуцку, на жаль, гэтым гістарычным падзеям яшчэ не надаецца належнай увагі. Таму асаблівa важна, каб і случакі памяталі пра сваю гісторыю*».

Пачатак дазволенага мясцовай уладай канцэрта ў 14.00.

**Антон БРЫЛЕЎСКІ.**

СЛЫШАЛИ?

## Профсоюзы пошли в суд

*с намерением оспорить действия солигорских чиновников*

Речь идет о повторном отказе Солигорского райисполкома зарегистрировать первичную организацию Белорусского Независимого профсоюза работников УСП «Трест «Реммонтажстрой».

Как уже сообщалось, о солидарности с БНП в этом вопросе заявили профсоюз РЭП, Белорусский Конгресс демократических профсоюзов. Обратился к лидеру страны в поддержку Белорусского Независимого профсоюза, стремящегося осуществить свое законное право, Генеральный секретарь Глобального союза industriAll (Международное объединение профсоюзов) Вальтер Санчес.

13 ноября в столице шахтеров прошел пикет, участники которого требовали зарегистрировать первичную профсоюзную организацию. В №91 «Народная Воля» проинформировала об этом читателей.

Вчера, 19 ноября, корреспондент газеты обратилась к председателю БНП **Николаю Зимину** с вопросом, есть ли какие-то подвижки в деле государственной регистрации данной первичной структуры Белорусского Независимого профсоюза.

– Пока никаких подвижек нет, – ответил **Николай Зимин.** – Чиновники молчат. Мы подали исковое заявление в суд Солигорского района на их действия. Пусть в суде объяснят, что их конкретно не устраивает в поданных нами на регистрацию документах и почему нам отказывают в нашем законном праве. Ждем судебных разбирательств.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ЧУЛІ?

### Махляр з Нямеччынны дабраўся да беларусаў

*Праваахоўнікі просяць пацярпелых ад дзеянняў затрыманага грамадзяніна Германіі паведаміць пра гэта ў Фрунзенскае РУУС.*

33-гадовы немец падазраецца ў здзяйсненні махлярстваў у дачыненні да жыхароў сталіцы і Мінскай вобласці. Ён знаходзіўся ў рэгіянальным вышуку на тэрыторыі ФРГ.

Мужчына прыехаў у Беларусь у лістападзе 2017 года. У Мінску ён адкрыў фірму, якая аказвае паслугі па вырабе хат і лазняў з драўлянага бруса. «*Браў перадаплату і свае абавязацельствы не выконваў. У міліцыю звярнуліся 15 пацярпелых – жыхароў Мінска і Мінскай вобласці. Папярэдне сума нанесеных шкоды склала больш як 40 тысяч долараў*», – распавяла БЕЛТА афіцыйны прадстаўнік Фрунзенскага РУУС **Наталля Аскірка**. Аператыўнікі высветлілі, што затрыманы іншаземец таксама ўваходзіў у давер да разведзеных адзінокіх жыхарак сталіцы. У адной з мінчанак ён узяў 6 тысяч долараў, якія дагэтуль не вярнуў. У дачыненні да затрыманага распачалі крымінальную справу за махлярства.

«ЕВРОВИДЕНИЕ-2018»

## Старт дан!

Вчера в Минске торжественно открылся Международный детский конкурс песни «Евровидение-2018». По красной ковровой дорожке прошли все 20 делегаций стран-участниц. К слову, это рекорд – за всю историю конкурса такого количества исполнителей еще не было.

Финал конкурса пройдет 25 ноября в «Минск-Арене». Беларусь на проекте представит 14-летний Даниэль Ястремский с песней «Time».

ДУХОЎНЫ СКАРБ

## Пацалаваная Богам...

Сёння, 20 лістапада, 70 гадоў з дня нараджэння **Яўгеніі Янішчыц**. Творцаў такога палёту называюць пацалаванымі Богам. Яна сапраўды была адзначана Божым пацалункам і – адначасова – выразніцай безабаронна пяшчотнай беларускай душы. Імклівакрылай ластаўкай Палесся менаваў яе народны паэт Ніл Гілевіч, паважаў яе талент і народны пісьменнік Васіль Быкаў. На гэтым здымку – яна між класікамі ў жыцці, а магла б застацца поруч з імі і ў літаратуры. Калі б не гэткая ранняя смерць у сорак гадоў...

І ўсё ж яна паспела выказаць сваё патаемнае, лірычна-шчымлівае, што застанецца ў нашым прыгожым пісьменстве, у яго залатым фондзе. У вёсцы Парэчча на Піншчыне створаны Музей Яўгеніі Янішчыц, але існуе ён дзякуючы людской самаахвярнасці. А ім мусілі б заапекавацца мясцовыя ўлады... Рэдакцыя атрымала трывожны допіс з малой радзімы паэткі нашага чытача Уладзіміра Гука. Памяці Я.Янішчыц прысвечаны і чарговыя «100 радкоў Міхася Скоблы» (на стар.7).



ВІНШУЕМ!

## Як у Латвіі адсвяткавалі стагоддзе незалежнасці без кардонаў і нагляду


Ilmars Znotins (AFP)

Пазаўчора на вуліцах Рыгі цяжка было сустрэць чалавека без стужкі, сцяга або бутаньеркі ў нацыянальных колерах. Без усялякіх праверак і кардонаў людзі праходзілі да манумента Свабоды, дзе адбывалася галоўнае святкаванне. У ганаровай варце можна было пастаяць не толькі вайскоўцам, але і ўсім жадаючым.

Вайсковы парад прайшоў уздоўж ракі Даўгавы. І тут, як і ля манумента Свабоды, не было ніякіх кардонаў і праверак.

Што ж, у дэмакратычнай краіне ўсё па-дэмакратычнаму.



Ints Kalnins (Reuters)

SOS!

## Памяць пра слаўную паэтку вымагае…

70-я ўгодкі з дня нараджэння Яўгеніі Янішчыц прыпалі на абвешчаны ў нашай краіне Год малой радзімы. Каб пагля-дзець, што робіцца ў родных мясцінах славутай паэткі, я паехаў туды, дзе яна прыйшла ў свет, хадзіла ў школу. Малая радзіма Янішчыц – гэта вёскі Велясніца, Рудка, Мерчыцы і Парэчча на Піншчыне. У першай яна нарадзілася, у другой жыла і вучылася ў пачатковай школе, у трэцяй скончыла васьмігодку, у чацвёртай атрымала атэстат аб сярэдняй адукацыі.

Што ж я пабачыў? Няма ўжо школ у Рудцы і Мерчыцах, зачыніліся клубы і бібліятэкі ў Велясніцы і Рудцы. Вёскі старэюць і паступова знікаюць. Праўда, у Рудцы і Велясніцы будуецца дачы. Але дачнікі – не вяскоўцы, у тых паселішчах вясковы сялянскі дух не трымаецца.

Наведаў я і Парэчча, дзе ў часы Янішчыц была вялікая сярэдняя школа, а сёння працуе толькі так званая базавая, дзе вучыцца каля трох дзясяткаў школьнікаў. Тут працуе музей паэткі, загадчыцай якога з'яўляецца Антаніна Паўлаўна Сідарук. Дарэчы, яна скончыла Парэчскую дзесяцігодку прыкладна ў адзін час з Яўгеніяй Янішчыц. Музей стварауся да 60-годдзя паэткі. Сёння ён патрабуе рамонту і рэканструкцыі. На жаль, мясцовыя ўлады ніяк не могуць адшукаць неабходных для гэтага сродкаў. Нават напярэдадні 70-х угодкаў, якія прыпадаюць на 20 лістапада, не паруліліся даць музею новае жыццё.

А музей, трэба заначыць, штогод наведваюць тысячы школьнікаў і дарослых. Шмат наведвальнікаў прыязджае здалёку, нават з-за мяжы. І нам, землякам, нямёка становіцца за стан музея.

Няўжо ў раёне і вобласці, у Пінску і Брэсце няма чыноўнікаў, якія перажываюць за родную культуру? Няўжо не знойдзецца прадпрымальнікаў, якія змаглі б дапамагчы ў гэтай справе? Не так многа і патрэбна тых сродкаў.

Памяць пра слаўную паэтку вымагае ад усіх нас не застацца абыякавымі. І таму я звяртаюся да землякоў-палешукоў: давайце згуртуемся, аб'яднаем высілкі і зробім добрую справу – уратуем Музей Яўгеніі Янішчыц ад занядбання!

**Уладзімір ГУК.**
**в.Бобрык Пінскага раёна.**

ПРАБЛЕМА!

# Пакуты доктара Алены Стрэж

*Жыве ў Мачулішчах трохгадовы Герман. На пачатку восені ён павінен быў пайсці ў дзіцячы садок, але высветлілася, што месца для яго там няма.*

*Дарослыя дзядзі і цёці, у тым ліку і адказныя за дашкольную адукацыю ў Мінскім раёне, не могуць (ці няздольныя) зрабіць так, каб хлопчык разам з аднагодкамі наведваў садок па месцы жыхарства.*

*У няпростай сітуацыі паспрабавала разабрацца «Народная Воля».*

Мачулішчы – гарадскі пасёлак, які знаходзіцца літаральна ў некалькіх кіламетрах ад мінскай кальцавой аўтадарогі. Там жыве каля дзесяці тысяч чалавек. Некалькі гадоў таму найбольш актыўныя жыхары Мачулішчаў звярталіся ў «Народную Волю» па дапамогу: людзі хацелі, каб мясцовая амбулаторыя атрымала статус паліклінікі, што дазволіла б пашырыць штат супрацоўнікаў медыцынскай установы – дактароў востра не хапала. Тады наша публікацыя дапамагла.

Зараз у Мачулішчах дзейнічае паўнавартасная паліклініка, дзе і працуе мама Германа.



З Аленай Стрэж *(на фота)* мы сустрэліся на яе працоўным месцы – у стаматалагічным кабінеце.

– Я прыйшла сюды на працу шаснаццаць гадоў таму. Тады тут была амбулаторыя. Паводле адукацыі я зубны ўрач. Заўжды хацела ім стаць, і працу сваю вельмі люблю, – шчыра прызнаецца жанчына. І працягвае:

– У нас своеасаблівая спецыфіка працы – прымаем і дарослых, і дзетак, паток пацыентаў вельмі вялікі. У стаматалагічным кабінеце нашай дзяржаўнай паліклінікі працуюць усяго два ўрачы. Гэта на ўсе Мачулішчы. Прычым я пры ўсім маім жаданні пакуль не магу працаваць поўны дзень.

**– Гэта таму, што ў вас маленькае дзіця?**

– Так. Сітуацыя няпростая: 4 верасня 2015 года я нарадзіла сына Германа. Гэта другое дзіця ў нашай сям'і. Яму яшчэ і двух тыдняў не было, як мы сталі на ўлік тых, каму патрэбна месца ў дзіцячым садку.

Дзіцячых садкоў у Мачулішчах на сённяшні дзень два. Адзін на 120 месцаў, другі крыху меншы. Чаргу з тых, каму патрэбна месца, фарміруюць у Мінскім раённым выканаўчым камітэце, і чарга на два гэтыя дзіцячыя садкі адна. Нас паспяхова ў яе ўнеслі. Перыядычна я тэлефанавала ў выканкам, кантралявала балючае для нас пытанне. Прычым хадайніцтвы аб тым, што нашай сям'і патрэбна месца ў дзіцячым садку, падпісалі галоўны ўрач Мінскай цэнтральнай раённай бальніцы Гарык Барсамян, старшыня Мачулішчанскага пасялковага Савета Сяргей Крывашэй і намеснік старшыні Мінскага раённага выканаўчага камітэта Аляксандр Мякіннік.

Нам сапраўды патрэбна гэтае месца, бо пакінуць маленькага Германа няма з кім: нам з мужам у Мачулішчах разлічваць на бацькоў ці іншых сваякоў не выпадае – у нас іх тут папросту няма.

**– А чаму вашага сына пазбавілі месца ў садку?**

– Да чэрвеня гэтага года прозвішча сына ў спісе тых, хто пойдзе ў малодшую групу, было. Я гэта бачыла на ўласныя вочы. Што здарылася потым, не ведаю, але калі 3 верасня мы з сынам з'явіліся ў садку, да нас падышла загадчыца і сказала: месца для Германа няма.

Так мы засталіся ні з чым.

**– Вы былі вымушаны адмовіцца ад працы?**

– Не зусім. Да дэкрэтнага адпачынку са мной быў заключаны пяцігадовы кантракт на 1,25 стаўкі. Зараз жа я працую толькі па чатыры гадзіны на дзень – з 8 ранку да 12 дня. Гэта 0,5 стаўкі, і то я іх маю дзякуючы таму, што кіраўніцтва паліклінікі пайшло насустрач, перааформіўшы кантракт са мной.

Адпрацаваўшы чатыры гадзіны, я бягу дамоў да сына. Заробак? На сённяшні дзень ён меншы, чым дэкрэтныя выплаты.

Муж звольніўся з працы. Раней ён працаваў будаўніком, часта ездзіў у доўгія камандзіроўкі. Зараз жа з-за сітуацыі, якая ў нас склалася, ён вымушаны працаваць па дамове падраду, прычым толькі ў той час, калі не працую я.

Наняць для Германа няню на поўны працоўны дзень – гэта вельмі дорага, ніхто ж не пагодзіцца працаваць за 200 рублёў у месяц. Таму мы вымушаны выкручвацца ў гэтай сітуацыі самі, не ведаючы, ад каго чакаць дапамогі…

## Месца будзе ў наступным годзе

Чыноўніцкая вертыкаль адказных за дашкольную адукацыю Мінскага раёна пацягнулася яшчэ вышэй – да начальніка ўпраўлення па адукацыі, спорце і турызме Мінскага райвыканкама **Валянціны Астапенка** *(на фота)*.



Не разлічваючы на тое, што ўдасца атрымаць каментарый па тэлефоне, карэспандэнт «Народнай Волі» запісаўся на асабісты прыём да Валяніціны Васільеўны.

– Я не хацела б, каб вы запісвалі нашу размову на дыктафон. Бачу – вы вопытны і так справіцеся, – з гэтых слоў Валянціны Астапенка распачалася наша сустрэча, на якой, дарэчы, прысутнічала і Алена Баранава.

Прыйдзецца пераказваць пачутае ўласнымі словамі.

**Першае.** Мачулішчы – населены пункт, дзе вельмі шмат сем'яў вайскоўцаў. Іх дзеці таксама стаяць у чарзе на атрыманне месца ў дзіцячым садку. У Беларусі дзейнічае Закон аб статусе ваеннаслужачых, якім гарантуецца прадастаўленне месцаў ва ўстановах дашкольнай адукацыі цягам трох месяцаў з моманту падачы адпаведнай заявы. Пракуратура праводзіла праверку, вынікам якой стала наступнае рашэнне: нельга дзяліць дзяцей на дзяцей вайскоўцаў і цывільных грамадзян – усе ў роўнай ступені маюць права на месца ў дзіцячым садку.

**Другое.** Сям'я Германа Стрэжа не мела накіравання ў дзіцячы садок па месцы жыхарства праз вялікую чаргу. Зараз парадкавы нумар Германа Стрэжа на залічэнне – у дзявятым дзясятку чаргі. Перад ім у тым ліку і дзеткі са шматдзетных сем'яў і сем'яў вайскоўцаў.

Хадайніцтвы наконт Германа Стрэжа і сапраўды былі, але на сітуацыю не паўплывалі.

Сям'і Стрэж было прапанавана вазіць Германа ў іншыя садкі раёна – у тым ліку ў Гатава ці Чурылавічы. Але бацькі ад гэтага адмовіліся. А дашкольная адукацыя ў Беларусі не з'яўляецца абавязковай.

(Алена Стрэж пацвердзіла, што ім прапаноўвалі месцы ў іншых дзіцячых садках раёна, але графік іх дзейнасці несумяшчальны з графікам яе работы. У выпадку згоды на іншы садок жанчына будзе вымушана пакінуць працу.)

У Мачулішчах на сённяшні дзень не прадугледжаны спецыяльны аўтобусны маршрут, які дазволіў бы бацькам адвозіць дзетак у садкі Гатава, Чурылавічаў і Мінска. Бацькам даводзіцца рабіць гэта самастойна.

**Трэцяе.** Герман Стрэж будзе прыняты ў садок у наступным навучальным годзе. Сёлета ў два дзіцячыя садкі ў Мачулішчах пайшлі 86 дзетак ва ўзросце ад 3 да 5 гадоў. У наступным годзе дашкольныя ўстановы будуць гатовы прыняць прыкладна 90 чалавек.

У планах улад будаўніцтва трэцяга садка ў Мачулішчах. Аб гэтай будоўлі задумаліся яшчэ некалькі гадоў таму. Для рэалізацыі праекта было патрэбна 65 мільярдаў недэнамінаваных беларускіх рублёў. Пакуль праект праходзіць узгадненні ў розных інстанцыях, не выключана, што будаўніцтва распачнецца ў наступным годзе.

## Замест эпілога

Пытанне аб тым, чаму ў беларускіх паліклініках, пачынаючы ад сталіцы і заканчваючы раёнамі, не хапае дактароў, – тэма для доўгай і балючай размовы.

Што трэба, каб утрымаць урача на працоўным месцы ў раёне? Акрамя годнага заробку павінны быць створаны такія сацыяльныя ўмовы, каб спецыяліст хацеў застацца тут працаваць. Выпадак Алены Стрэж іншы: яна хоча працаваць у Мачулішчах і толькі тут, бо тут яе дом, тут яе сям'я. А што ж дзяржава?

Я ведаю, але наўмысна не называю суму заробку зубнога ўрача ў мачулішчанскай паліклініцы. Паверце, нават праца на 1,25 стаўкі дае невялікія грошы. Зараз жанчына мае заробак увогуле за 0,5 стаўкі. А ўсё таму, што для яе трохгадовага сына сацыяльна арыентаваная дзяржава не знайшла магчымасці прадаставіць месца ў дзіцячым садку па месцы жыхарства. Хаця, па логіцы, чым больш будзе працаваць Алена Стрэж, тым больш здаровых людзей будзе ў Мачулішчах.

А дзеці… Яны не дзеляцца на горшых і лепшых. І якія б аргументы хто ні прыводзіў, гэта ненармальна, калі ў пасёлку з насельніцтвам 10 тысяч чалавек працуюць толькі два дзіцячыя садкі, якія могуць прыняць менш за 300 дзетак!

Месцаў не хапае дзецям вайскоўцаў, дзецям урачоў, дзецям супрацоўнікаў ЖКГ… Але ж што за праблема арганізаваць некалькі «дзіцячых» аўтобусных маршрутаў, якія адвозілі б дзяцей у садкі іншых населеных пунктаў? Усім, здаецца, было б добра: дзеці хадзілі б у садок, бацькі паспявалі б на працу і пазбавіліся неабходнасці выбіраць паміж сям'ёй і працай. Як-ніяк у XXI стагоддзі жывём, у цэнтры Еўропы…

Чаму ў нас спачатку будуюць мікрараёны, а потым думаюць пра інфраструктуру – садкі, школы, дарогі? Не хапае грошай? Улады не ведаюць, дзе знайсці фінансы? А можа, трэба нарэшце перагледзець бюджэт краіны, з якога штогод мільёны з грошай падаткаплацельшчыкаў ідуць на вертыкаль, БРСМ, на дзяржаўнае тэлебачанне, газеты, і перанакіраваць гэтыя сродкі на рэчы больш патрэбныя?!

*«Мачулішчам патрэбны яшчэ адзін дзіцячы садок»*, – сказала мне на развітанне Алена Стрэж. І я цалкам з ёй згодны. Патрэбны – і, напэўна, не толькі Мачулішчам. Праўда, ёсць вялікае падазрэнне, што пабудаваны ён будзе тады, калі Герман Стрэж скончыць школу і пойдзе ў войска аддаваць даніну Радзіме… А ў гэты ж час з экрана тэлебачання нам будуць распавядаць пра моцную і квітнеючую дзяржаву Беларусь.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Мачулішчы–Мінск.**

АФІЦЫЙНА

## «Я нічога каменціраваць не буду…»

Чаму Герман Стрэж не пайшоў у дзіцячы садок? Здавалася, дакладную прычыну павінна была б ведаць загадчыца дзіцячага садка №1 Мачулішчаў **Наталля Ляўчэня,** але яна не захацела каменціраваць сітуацыю. Вось які дыялог з ёю атрымаўся:

**– Наталля Міхайлаўна, добры дзень! У верасні гэтага года да вас у садок павінен быў пайсці трохгадовы Герман Стрэж, але ў апошні момант яго прозвішча знікла са спісаў на залічэнне. Чаму?**

*– Хто вы і адкуль?*

**– Газета «Народная Воля», карэспандэнт Віталь Гарбузаў.**

*– «Народная Воля» – гэта што?*

**– Лепшая газета краіны, і я рэкамендаваў бы вам на яе падпісацца, але перад гэтым давайце вернемся да пытання…**

*– Я нічога вам каменціраваць не буду…*

Шчыра кажучы, такая пазіцыя кіраўніка дзіцячага садка здзівіла. Не верыцца, што Наталля Ляўчэня не ведае сапраўднай прычыны, па якой хлопчыку было адмоўлена ў залічэнні. Калі ў садку і сапраўды не хапае месцаў і жадаючых трапіць туды больш, чым ложкаў, то, напэўна, трэба пра гэта гаварыць.

Не дабіўшыся нічога ўцямнага ад Наталлі Ляўчэня, мы вырашылі пазваніць «па вертыкалі» – загадчыцы сектара дашкольнай адукацыі Упраўлення па адукацыі, спорце і турызме Мінскага райвыканкама **Алене Баранавай**.

*– Калі вы хочаце паразмаўляць як грамадзянін ці як журналіст, вы павінны запісацца на прыём да начальніка ўпраўлення, і тады я ўсё вам буду каменціраваць. Таму што ўсе дзеці ідуць у садок у адпаведнасці з чаргой, а гэты дзіцёнак размеркаваны, паколькі не па чарзе, у дзіцячы садок у Чурылавічах. Як і многія, хто стаяў у чарзе да яго, пайшлі ў дзіцячы садок у Чурылавічах. Ніякія хадайніцтвы не даюць права парушаць чаргу…*

ПАРАЎНАЕМ!

# У Беларусі бензін даражэе, у Расіі – цэны замарожаны

18 лістапада ў 24-ы раз за год павысіліся кошты на аўтамабільнае паліва. І хаця амаль кожны раз цана падымалася толькі на адну капейку, у выніку цэннікі на АЗС краіны падраслі на 17–19,3%.

**Як змяніліся кошты на паліва (у бел. рублях)**

| Марка паліва | Цана да першага падаражання – да 8 лютага 2018 года | Цана на 18 лістапада | На колькі працэнтаў выраслі кошты |
|---|---|---|---|
| **АІ-92**-К5-Еўра | 1,19 | 1,42 | 19,5 |
| **АІ-9**5-К5-Еўра | 1,27 | 1,51 | 18,9 |
| **АІ-98**-К5-Еўра | 1,48 | 1,72 | 16,2 |
| **Дыз. паліва** | 1,29 | 1,51 | 17 |

Як вядома, нядаўна віцэ-прэм'ер Беларусі **Ігар Ляшэнка** заявіў, што *«справядлівая цана за літр АІ-92 – 77 цэнтаў»*, а гэта значыць, што рост коштаў працягнецца. Але варта адзначыць, што ў нашых суседзяў па Мытным саюзе – Расіі і Казахстане – бензін ужо таннейшы, чым у Беларусі. Гэта добра відаць па цане на самы папулярны ў аўтааматараў від паліва – АІ-92:

| Краіна | Цана 1 л АІ-92-К5-Еўра, *у доларах* | Сярэдні заробак, *у доларах* |
|---|---|---|
| **Беларусь** | 0,67 | 460 |
| **Расія** | 0,63 | 635 |
| **Казахстан** | 0,43 | 450 |

Нельга не адзначыць і тое, што нядаўна ў Расіі, з якой Беларусь звязвае не толькі Мытны саюз, мы яшчэ аб'яднаны ў Саюзную дзяржаву, цэны на бензін увогуле замарозілі.

Паводле дамовы, якую заключылі ўрад Расійскай Фэдерацыі і нафтавікі, да канца 2018 года нафтавыя кампаніі Расіі мусяць замарозіць цэны на паліва і трымаць іх на ўзроўні пачатку чэрвеня. Аднак віцэ-прэм'ер Расіі **Дзмітрый Козак** заявіў, што ўжо з 1 лістапада кампаніі выконваюць гэтыя абавязацельствы. *«На раніцу 1 лістапада было падзенне коштаў на біржы на дызель на 4%, на 92-і бензін – на 3,5%, на 95-ы – амаль 3%. І кошты прыкладна ў гэтым сегменце ў цяперашні час трымаюцца»*, – сказаў Козак. Паводле яго слоў, і ў 2019 годзе цэны на аўтамабільнае паліва ў Расіі не моцна зменяцца. *«Рост у наступным годзе не дапускаецца вышэй сярэднегадавой інфляцыі, раўнамерна па месяцах. Гэта прыкладна 4–4,6% у год, але раўнамерна, без рэзкіх змен»*, – адзначыў Дзмітрый Козак.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

БЫВШИЕ

## Андрей БЕЛЯКОВ, экс-руководитель БРСМ:

# «Меня все устраивает…»

В конце мая этого года на очередном съезде Белорусского республиканского союза молодежи сменился лидер организации – вместо 42-летнего **Андрея Белякова**, возглавлявшего БРСМ менее четырех лет, первым секретарем ЦК организации стал 31-летний **Дмитрий Воронюк.**

Куда трудоустроился Андрей Беляков, которого после съезда, как писали некоторые СМИ, отправили фактически в никуда? Новой должности, как это традиционно происходит при ротации чиновников, Белякову тогда не предложили. Правда, одновременно Андрей Беляков является членом Совета Республики – был избран в верхнюю палату парламента в 2016 году от Гомельской области. Но сенаторы, как известно, работают на общественных началах, зарплату не получают.

– Работаю в Республиканском институте высшей школы, – рассказал «Народной Воле» бывший молодежный лидер. – Основная моя деятельность – это научная сфера. Обобщаю тот опыт, который получил, работая в молодежных структурах.

**– Если не секрет, вы сами нашли работу или вам предложили это место? Кстати, как звучит ваша новая должность?**

– Не хотелось бы об этом говорить... Меня все устраивает.

БРСМ, бесспорно, был важным этапом моей жизни. Любая общественная деятельность очень интересна, потому что связана с постоянным общением, коммуникациями. Это тот бесценный опыт, который потом обязательно пригодится в дальнейшей жизни. Тому много примеров. Причем не только в нашей стране – это мировая тенденция.

**– Это намек на то, что общественная работа – это первая ступенька в вашей политической карьере? Может, следующий ваш шаг – участие в выборах в Палату представителей?**

– Поживем – увидим.



Работает, к слову, Андрей Беляков заместителем начальника управления воспитательной работы с молодежью Республиканского института высшей школы. Это отдельная структура, которая не относится ни к одной кафедре РИВШ.

Задача №1 управления – научно-методическое обеспечение основных направлений деятельности системы воспитания и идеологической работы учреждений высшего образования Беларуси. Проще говоря, сотрудники управления пытаются научно обосновать, систематизировать и разработать методологию преподавания воспитательной и идеологической работы в белорусских вузах. Более того, надо понимать, они же и ответственны за то, как продвигается государственная идеология в студенческие массы. Ибо среди задач управления также:

– пропаганда и распространение положительного педагогического опыта в сфере идеологии и воспитания студентов,

– прогноз и планирование развития системы идеологической и воспитательной работы в учреждениях высшего образования республики,

– осуществление в пределах своей компетенции контроля и оценки деятельности воспитательных и идеологических структур учреждений высшего образования Республики Беларусь.

В общем, можно сказать, что трудоустроился Андрей Беляков по специальности, поскольку вся его трудовая биографии – это воспитательная и общественно-политическая работа. После окончания Гомельского государственного университета он работал воспитателем оздоровительного центра «Кристалл», затем педагогом-организатором средней школы №41 Гомеля, а с 2000 года – в БРСМ. Начинал с Гомельского районного аппарата организации, в 2013-м стал вторым секретарем центрального аппарата, переехал вместе с семьей в Минск и уже в январе 2015-го возглавил БРСМ. Оставил пост первого секретаря в этом году.

Если говорить о том, как складывались судьбы лидеров БРСМ, то прав Андрей Беляков – все они в будущем оказывались на хороших должностях, только по-разному на них себя проявили. Были и скандалы: в 2011 году бывший первый секретарь ЦК БРСМ **Михаил Ковалев**, который к тому времени занимал должность заместителя председателя Витебского облисполкома, погорел на взятке и был осужден на 7 лет колонии. Но есть и другие примеры – **Михаил Орда** сегодня возглавляет официальные профсоюзы, **Игорь Бузовский** – администрацию Центрального района Минска.

**Мария ЭЙСМОНТ.**



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Жизнь взаймы, или О кредитном буме

По последним данным, белорусы должны банкам почти 11 миллиардов долларов. Это на треть больше, чем год назад. С начала года задолженность населения перед банками увеличилась на 1859 млн рублей. В общей сумме задолженности кредиты на потребительские нужды составляют 4019,7 млн рублей, а на финансирование недвижимости – 6866,2 млн рублей. Кредиты физическим лицам обеспечили большую часть прироста портфеля кредитов банков.

Кредитный бум у населения начался в прошлом году. Тогда за год задолженность населения по потребительским кредитам увеличилась на 75%. В текущем году этот бум устанавливает новые рекорды. Рост розничного кредитования связан с восстановлением потребления домашних хозяйств и со снижением кредитных процентных ставок. Ставки по потребительским кредитам снизились чуть ли не вдвое: около 20% годовых в начале 2017 года до неполных 10% в этом году.

Кредиты на покупку отдельных новых автомобилей, в частности, белорусско-китайского «Джили», выдаются вообще под символические проценты. Причем банки не очень заморачиваются по поводу доходов кредитополучателей. Только бери! За первое полугодие продажи новых авто увеличились более чем на 70%. Однако это не означает, что банки за свой счет субсидируют продажи автомобилей, выдавая льготные кредиты. Им, как правило, кредитные проценты до рыночных компенсирует партнер, продажу товаров которого банк кредитует. Кредитование строительства жилья, как известно, может компенсировать банкам бюджет.

Интрига заключается в том, как долго будет сохраняться этот высокий потребительский тренд и не переоценит ли население свои возможности в обслуживании взятых кредитов на потребительские нужды и на финансирование недвижимости. Согласно расчетам банкиров, с начала года долговая нагрузка населения как отношение всей его задолженности к доходам за год в Беларуси находится в районе 10–12%. Так же примерно, как в некоторых западных странах. По отношению к ВВП кредитная задолженность белорусских домашних хозяйств составляет около 10%. В России, кстати, эта долговая нагрузка раза в два выше. В таких странах, как Швейцария и Дания, закредитованность населения в 12 раз превышает белорусскую. Однако доходы населения в них и в Беларуси также отличаются в разы. Стабильность доходов населения и экономики в целом в западных странах никак не сродни белорусской, где риск того, что в результате нового кризиса белорусские семьи утратят способность выплачивать кредиты, несоизмеримо более высокий. По меньшей мере отдельные наши кредитополучатели столкнулись с этим в 2015–2016 годах. К примеру, у супругов, взявших кредит на новую квартиру, в два раза упали доходы, а надо платить еще и за арендуемое жилье.

За кредитным бумом внимательно наблюдает Нацбанк. Весной этого года он снизил предельный показатель долговой нагрузки с 50% до 40%. Теперь расходы кредитополучателей на погашение кредитного долга не должны превышать 40% всех их реальных доходов. Словом, по одежке протягивай ножки. Есть и другая напасть. Несмотря на то, что кредиты на приобретение белорусской продукции выдаются под льготные проценты (купляйце беларускае!), многие наши соотечественники за кредитные деньги непатриотично покупают именно импорт, тем самым ухудшая товарный и платежный балансы страны. В условиях Беларуси бурный рост кредитования населения несет в себе дополнительные риски. Тут и американские новые антироссийские санкции, в результате которых, как это уже было, упадет российский спрос на белорусскую продукцию, а вместе с этим упадут доходы наших экспортеров и заработки их работников. Тут и непредсказуемые снижения мировых цен на нефть и калийные удобрения. И много чего другого.

Пока белорусы выглядят аккуратными плательщиками по кредитам. Доля так называемых необслуживаемых кредитов по физическим лицам в розничном кредитном портфеле банков укладывается в 2%. Не чета нашим предприятиям, у которых доля проблемных кредитов в разы превышает предельно допустимый уровень (13–14%). Чтобы удовлетворить кредитные аппетиты населения, некоторые банки повысили депозитные ставки для привлечения средств состоятельных слоев белорусов, а кредитные ставки снизили. Ведь кредитный бум подстегивает многие сегменты потребительского рынка: и строительство жилья, и продажи автомобилей, телевизоров, холодильников, других предметов длительного пользования… Пока Нацбанк намекает, что и в дальнейшем, если все будет хорошо с доходами населения, с экспортом, он продолжит снижение ставки рефинансирования и в следующем году с нынешних 10% до 9,5%, 9%.

Правительство прогнозирует, что реальные денежные доходы белорусов в 2018 году вырастут на 7,1%, что экономика будет увеличиваться не менее чем на 4% в год, что зарплата бюджетников в целом станет не менее 80% от средней по стране, а в перспективе сравняется с ней. К сожалению, далеко не всегда звезды сходились над планами правительства. Это надо учитывать тем, кто хочет хорошо жить здесь и сейчас.

*«Народная Воля»*
*в* **Facebook** *www.facebook.com/nv.online.info*
*в* **Vkontakte** *www.vk.com/nvonlineinfo*

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Пражорлівы дзяржаўны апарат…




Быў час, калі кіраўнікі дзяржаў валодалі неабмежаванымі правамі распараджацца грашыма (казною) сваіх краін. Больш за тое, у Францыі, напрыклад, у XVII ст. быў выдадзены загад, згодна з якім пад пагрозай смяротнага пакарання забаранялася абмяркоўваць не толькі памеры бюджэтнага размеркавання, але і ўвогуле фінансавую дзейнасць дзяржавы.

Магчыма, камусьці і сёння хацелася б вярнуцца да тых абмежаванняў, але, дзякуй Богу, цемрашальскі час інквізіцыі даўно мінуў: у сусвеце пануе касмічна-інфармацыйна-камп'ютарная прастора. У лічаныя хвіліны на маніторы мабільнага тэлефона ці ноўтбука кожны з нас здольны атрымаць фактычна любую неабходную інфармацыю. У тым ліку і бюджэтна-фінансавую…

У бягучым годзе мне ўжо даводзілася, і не адзін раз, звяртаць увагу чытачоў «Народнай Волі» на асаблівасці беларускага бюджэту. Нагадаю: менавіта дзяржаўны бюджэт з'яўляецца галоўным інструментам рэгулявання эканамічнай і фінансавай сістэмы дзяржавы. Дзякуючы бюджэту вызначаецца сукупны попыт з боку дзяржавы на пэўныя віды тавараў, работ і паслуг і тым самым забяспечваецца выкананне асноўных функцый дзяржавы і вызначэнне яе прыярытэтаў.

Аналіз дзеючага бюджэту Рэспублікі Беларусь дае падставы для высновы аб тэндэнцыйным яго перакосе на карысць пананавання адміністрацыйна-бюракратычнага апарату (блока). Мяркуйце самі: 50,74% бюджэту накіроўваецца на ўтрыманне дзяржаўнага апарату альбо, іншымі словамі, вертыкалі ўлады. Гэта ні многа ні мала – 11,437 млрд долараў. Даследаваўшы больш за 200 бюджэтаў краін свету, я ні ў адным з іх не знайшоў, каб на артыкул «дзяржаўнае будаўніцтва» выкарыстоўвалася больш паловы бюджэту. Назавіце, калі ласка, больш забюракратызаваную краіну, чым наша. Няма такой!

У бюджэце Германіі на дзяржаўнае будаўніцтва накіроўваецца 5%, у Злучаных Штатах Амерыкі – 3%, нават у саюзнай з Беларуссю Расіі – 7,9%... Менавіта грошыкі дзяржбюджэту – іншымі словамі, нашы з вамі грошыкі – дазваляюць трымаць гэтую агромністую армію чыноўнікаў. Яны так і называюцца – дзяржаўныя служачыя, ці службовыя асобы.

Кіраўніцтва краіны любяць хваліцца: глядзіце, якая моцная вертыкаль улады пануе ў Беларусі! А навошта нам тая вертыкаль, калі суб'ект гаспадарання кроку зрабіць не здольны, каб не ўзгадніць яго з вертыкальшчыкам? А той глядзіць на ўзроўні калгасна-саўгаснага-сантэхнічнага разумення і «высокіх» маральных каштоўнасцяў уласнага партфеля, як, напрыклад, галоўны гродзенскі кантралёр, былы памочнік прэзідэнта Беларусі па Гродзенскай вобласці Сяргей Раўнейка, і вырашае – дазваляць ці не дазваляць працаваць мясцовай тытунёвай фабрыцы. Пакалі ў кішэню – вырашае станоўча, не пакалі – тысяча і адна прычына для адмовы.

Як тут не пагадзіцца з меркаваннем Аляксандра Лукашэнкі, які ў свой час прызначаў таго ж Раўнейку на высокую дзяржаўную пасаду: «Калі вывучэнне ішло кадравае, я задаў пытанне, адкуль такая раскоша: аўтамабілі да дзясятка, кватэры да дзясятка. Не можа звычайны чыноўнік і яго сям'я так жыць». І дадаў, што Раўнейка «паводзіў сябе як сапраўдны бандыт». Карупцыйны бандытызм у Беларусі ў росквіце: кожны дзень сродкі масавай інфармацыі ледзьве паспяваюць паведамляць аб чарговым выпадку хабарніцтва.

У адпаведнасці з Законам аб барацьбе з карупцыяй адказнасць за выкараненне гэтага зла ўскладзена на тры структуры: Пракуратуру, КДБ ды МУС. З дзяржбюджэту на ўнутраны «сілавы блок» выдзяляецца амаль 11%, на нацыянальную абарону – 5,59%, дзяржаўнае будаўніцтва – 50,74%. На гэтым чынавенска-міліцэйскім фоне сацыяльны блок беларускага бюджэту, як кажуць у народзе, «адпачывае»:

– адукацыя – 4,44%,

– ахова здароўя – 4,53%,

– пенсіі, сацыяльная дапамога інвалідам, шматдзетным – 8,98%.

Аб будаўніцтве якой сацыяльна-арыентаванай краіны пры такім раскладзе бюджэту можа ісці гаворка?

Давайце адкрытым тэкстам скажам: у Беларусі ўсталявалася міліцэйска-чынавенская дзяржава, і кожны год дэпутаты розных узроўняў, зацвярджаючы бюджэт на чарговы год, не толькі ўмацоўваюць. «Вярхі» адарваліся ад народа. Пенсіянеры, а гэта амаль 2,5 мільёна чалавек, пастаўлены на жабрацкія калені, настаўнікам ды ўрачам сёння сорамна гаварыць, дзе працуюць, бо, акрамя спачування, нічога лепшага не пачуеш.

Чаму такое адбываецца і хто ў гэтым вінаваты?

Мы дзесяцігоддзямі недаацэньвалі ролю і значэнне дзяржбюджэту як галоўнага каталізатара ці тормазу сацыяльна-эканамічнага развіцця. Дакладней, недаацэньвала большасць насельніцтва: бюджэт ды бюджэт. Той жа, хто гэтую ролю бюджэту ведаў, ціхенька «праводзіў» праз сваіх «людзей сістэмы» лінію па абароне бесперспектыўных інтарэсаў і каштоўнасцяў. Беларускі бюджэт у сённяшнім выглядзе не спрыяе развіццю вытворчых сіл. Гэта бюджэт учарашняга дня.

Нагадаю: праект дзяржбюджэту рыхтуе Савет міністраў Рэспублікі Беларусь і прадстаўляе яго на разгляд у Палату прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі. Чым кіруюцца, якія веды і сацыяльныя каштоўнасці выкарыстоўваюць дзяржаўныя служачыя, якія рыхтуюць лічбы дзяржбюджэту і іх абгрунтаванне?

Наспеў час назваць рэчы сваімі іменамі.

У Беларусь прыйшоў капіталізм. Шкада, але далёка не ўсе гэты факт чамусьці жадаюць усвядоміць. Факты – упартая рэч. На сённяшні дзень амаль 2/3 працаздольнага насельніцтва Беларусі працуюць на прыватнаўласніцкіх прадпрыемствах, у арганізацыях, установах, ІП. Стасункі ўзаемаадносін паміж працадаўцам і наёмнымі работнікамі рэгулююцца ў адпаведнасці з заканадаўствам. Ва ўмовах капіталістычных узаемаадносін кожны з бакоў імкнецца атрымаць больш: уласнік – прыбытак, працаўнік – заробак. Чым танней рабочая сіла, тым большы прыбытак. Сіла працаўнікоў у іх згуртаванасці. Інструментам і галоўнай зброяй у руках працаўнікоў у барацьбе за больш высокі заробак з'яўляецца забастоўка: моцны разумее толькі моц сілы.

Хто выступае працадаўцам у адносінах да настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ, урачоў, санітараў, медсясцёр, бібліятэкараў? Правільна: асноўны цяжар ляжыць на плячах дзяржавы. Адкуль дзяржава бярэ сродкі для аплаты працы на такіх важных напрамках, як адукацыя, ахова здароўя, культура? Правільна – з бюджэту.

Таннай ацэнкай працы дзяржава падштурхоўвае прадстаўнікоў сацыяльнага блока да рашучых учынкаў. Існуе цывілізаваны шлях удасканальвання сацыяльных супярэчнасцяў: скараціць бюджэтныя асігнаванні на чынавенска-сілавы блок, а сродкі, што вызваліліся, накіраваць у сферу адукацыі, культуры, аховы здароўя, сацыяльную падтрымку пенсіянераў, шматдзетных, інвалідаў...

Гэта **першае.**

**Другое.** Беларусь павінна далучыцца да канвенцыі Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) №102 «Аб мінімальных нормах сацыяльнага забеспячэння» і ратыфікаваць яе. **Згодна з удакладненнем МАП №131 ад 22 чэрвеня 1970 г. міжнародны нарматыў пенсіённага мінімуму ўсталяваны на ўзроўні 55% ад сярэдняга заробку.** Гэта не я прыдумаў, гэта міжнародны нарматыў, і калі Беларусь не лічыць сябе перыферыйна-бананавай краінай, знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, то мінімальны памер пенсіі павінен быць па еўрапейскіх мерках **не менш за 55%** ад сярэдняга заробку.

І **трэцяе.** Лічу мэтазгодным унесці прапанову правесці ў другой палове бягучага года **ўсебеларускую акцыю па наданні дзяржаўнаму бюджэту Рэспублікі Беларусь еўрапейскага сацыяльнага статусу, што азначае павелічэнне фінансавання сацыяльнага блока (сацыяльная палітыка, ахова здароўя, адукацыя, культура) як мінімум да 50% дзяржбюджэту (зараз – каля 20%).** Нагадаю, што на сённяшні дзень сацыяльная скіраванасць бюджэтаў характэрна для абсалютнай большасці краін, напрыклад, у Італіі на сацыяльную палітыку выдаткоўваецца 50% бюджэту, у Нарвегіі – 70%, у Канадзе – 40%, у Аўстрыі – 50%, у Швецыі – 70%, у Фінляндыі – 70%, у Іспаніі – 50%, у Грэцыі – 50%, у Вялікабрытаніі – 40%, у Даніі – 70%, у Ірландыі – 40%, у Бельгіі – 50%, у Германіі – 50%, у Швейцарыі – 50% і г.д.

**Васіль РУСОВІЧ,**
**дацэнт, сацыёлаг.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Ад 10 да 25 базавых велічынь

*Пачаліся суды над актывістамі, якія традыцыйна 27 кастрычніка ўшанавалі памяць паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы і ў радавой сядзібе Каліноўскіх у Якушоўцы.*

Раённы суд у Свіслачы Гродзенскай вобласці вынес рашэнне па адміністрацыйнай справе актывістам **Юрыю Глебіку і Віктару Пяцельчыцу.** Паводле артыкула 23.34, частка 1, за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве Глебік асуджаны на 25 базавых велічынь штрафу, Віктар Пяцельчыц – на 10 базавых велічынь.

Напэўна, гэта не апошнія прысуды. Вядома, што пратаколы складзены і на гродзенскіх актывістаў **Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча, Ежы Грыгенчу, Мікалая Саляніка, Сяргея Верамеенку і Ігара Банцара.**

Як вядома, традыцыйна ўшанаваць памяць паўстанцаў Каліноўскага ў Свіслач з'язджаюцца актывісты з самых розных рэгіёнаў Беларусі. Зазвычай ускладваюцца кветкі да магілы Віктара Каліноўскага, да помнікаў Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту ў Свіслачы, а таксама да памятнага крыжа ў Якушоўцы.

Апошнія гады свісладкія міліцыянты складаюць на больш актыўных удзельнікаў Дня памяці пратаколы, паводле якіх вінаватых іх за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. Актывісты лічаць, што не парушаюць закон, паколькі ўшаноўваюць загінуўшых паўстанцаў падчас народнай традыцыі на Дзяды, калі большасць беларусаў наведваюць магілы для ўшавання памяці родных і блізкіх.



Аляксей МІХАЛЁЎ.

**На здымку: на магіле Віктара Каліноўскага ў Свіслачы 27 кастрычніка 2018 года.**

ЧУЛІ?

## Па просьбе Расіі

Пра новыя абмежаванні па бяспошлінным увозе тавараў праз мяжу ЕАЭС уведзеныя з ініцыятывы Расіі, паведамілі журналістам старшыня Мытнага камітэта Беларусі **Юрый Сянько.**

Як вядома, з 1 студзеня 2019 года бяспошлінна на тэрыторыю ЕАЭС можна будзе ўвезці тавараў для асабістага карыстання не больш за 25 кг і на суму не больш за 500 еўра. Сёння гэтыя нормы складаюць 50 кг і 1500 еўра адпаведна.

ДИПКУРЬЕР

## Армия Наполеона снова переправится через Березину

*В воскресенье 25 ноября Посольство Франции вместе с борисовскими чиновниками отметит 206-ю годовщину переправы Великой армии Наполеона через Березину в ноябре 1812 года.*

Как сообщили «Народной Воле» в Посольстве Франции, кроме официальной церемонии у могил французских солдат на кладбище деревни Студенка, возложения цветов к швейцарскому памятнику «Жертвам войны» и у мемориалов на Брилевском поле, пройдет также и историческая реконструкция переправы и сражения с участием исторических клубов Беларуси и других стран.

**Алина ВЕТРОВА.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСА

## Толькі ў школе чыны праціралі штаны

Паводле дадзеных Белстата, каля 75 беларускіх чыноўнікаў не маюць спецыяльнай адукацыі, яны скончылі толькі школу.

Як кажуць, у касмічны век
Не верыцца, вядома,
Што дзесь кіруе чалавек,
Не маючы дыплома.
І нават у глухім сяле,
Дзе больш працуюць рукі,
Стаць немагчыма «на чале»,
Калі не грыз навукі.
Прынамсі, так да гэтых пор
Лічылася чамусьці.
Аднак інакшы каленкор
У нашым захалусці!
Ёсць з адукацыяй чыны,
На жаль, не надта вартай,
Бо толькі церліся штаны
У іх за школьнай партай.
Магчыма, двойкі ды калы
Прыносілі дахаты,
І толк з вучобы быў малы,
Набытак небагаты.
Займелі пост нашармака,
Бо карта легла ўдала
І з «валасатая рука»
Кар'еры паспрыяла:
Кагосьці брат, кагосьці сват
Прасунуў на пасаду.
Такі ў нас лад, такі расклад…
Таму пляцёмся ззаду.
* * *
Аб тым, што невукі чыны,
Не выкажу трывогу,
Бо подпіс крыжыкам яны
Паставяць, дзякуй Богу…

## Найлепшы букет – з гуркоў ці катлет

Жыхарка Баранавічаў Алена Пляскач выраблае «харчовыя» букеты пад заказ: салодкія, мясныя, з садавіны і гародніны і іншыя.

Прызнае, пэўна, кожны з нас
Факт неаспрэчны гэты:
Ён атрымоўваў хоць бы раз
Або дарыў букеты.
Хай на калье ці бранзалет
Не мае грошай кожны,
Аднак «капейку» на букет
Знайсці, канешне, можна.
Але букет жа, як на здзек,
Праз нейкі час завяне
(У кветак болей доўгі век
На клумбе ці паляне),
Таму з яго, скажу я так,
Карысці вельмі мала,
Бо гэта ўсё-ткі не кумпяк
І не кавалак сала.
Букет, на жаль, праз дзень-другі
Не скарыстаеш дзесьці.
А падарунак неблагі,
Як потым можна з'есці.
І гэтак лічыць акурат
З Баранавіч кабета.
Яе букету кожны рад,
Бо ёсць карысць з букета.
На падарунак з нас любы
Глядзецьме вельмі ласа:
У ім гароднiна, грыбы
І нават сала-мяса.
Букетам могуць з гэтых пор
Парадавацца й дзеткі,
Бо ў ім зусім другі набор –
Смакоцце, а не кветкі.
Усім такі букет усмак –
У крыўдзе не пакіне.
Прынёс, да прыкладу, юнак
Яго сваёй дзяўчыне,
А тая проста не прыйшла
Да хлопца на спатканне.
Ён не трымацьме ў сэрцы зла
І бедаваць не стане.
Хаця спатоліць свой імпэт
Не ўдасца кавалеру,
Ды ён сяброў (бо ёсць букет!)
Запросіць на вячэру.
Ці раптам позняю парой
Прыйшлі да цёткі госці.
Само сабой, патрэбна ёй
На стол паставіць штосьці.
Як атрымае ад гасцей
Харчовыя букеты,
Дык гаспадыні ўсё ж працей –
Не трэ пячы катлеты…
Задуме той няма цаны,
Букеты – цуд дый годзе!
І будуць з гэтых пор яны,
Няма сумневу, ў модзе.
* * *
Каб заказаць букет такі,
Патрэбны, ясна, сродкі –
Свае ці каб далі бацькі.
Шкада, канешне, ўсё-ткі,
Што ў нас не ўсе жывуць як след,
Харчуюцца як трэба:
Хто з вуструшы можа мець букет,
А хто – з кавалкаў хлеба…

ШОК!

# «Он выстрелил без предупреждения…»

С 22 октября по 8 ноября этого года я находилась на лечении и оздоровлении в санатории «Белая Вежа» в Каменецком районе Брестской области. Все было хорошо вплоть до последнего дня, когда прямо на моих глазах случилось убийство. Впрочем, обо всем по порядку.

На территории санатория жила маленькая собачка, по размеру – чуть больше кота. Отдыхающие ее кормили, брали на руки, фотографировались с ней. Ее любили, и никто не предупреждал отдыхающих, что с собачкой что-то может быть не так.

8 ноября я с еще одной отдыхающей из Минска вышла прогуляться по аллеям. За нами увязалась эта собачка. Когда мы подошли к беседке, там сидел какой-то человек. Мы спросили у него, как распознать, это девочка или мальчик: одни отдыхающие звали собачку Найдой, другие – Марусей. Он внезапно сбросил с головы черный капюшон, выхватил из-под куртки пистолет и выстрелил в собачку, которая крутилась у моих ног. Без предупреждения. Просто бах – и все!



Я была в шоке и уже не помню, что кричала…

Помню, навстречу нам шагах в 20 шел молоденький милиционер с мужчиной в штатском и все время повторял: «Бешеная, она бешеная».

На наших глазах тот, кто сделал выстрел, схватил бездыханную собаку за холку и с размаху швырнул в машину.

Это все было чудовищно!

Мне стало плохо, я чуть дошла до лечебного корпуса. Там мне оказали помощь, делали внутривенные уколы, давали таблетки и др.

А ведь это социальный санаторий! Все отдыхающие – в основном пожилые люди, больные. У меня был инфаркт в 2016 году. А если бы этим выстрелом убили не только собачку?..

Я после этого практически сразу позвонила в 102, а затем – в Брестское УВД, рассказала о пережитом стрессе. «А мы за психоэмоциональное состояние людей не отвечаем!» – сказали мне в милиции.

Ну как так?!

Может, эта собачка действительно была бешеная, и лучше, чтобы ее нейтрализовали. Но неужели нельзя было сделать это гуманно, не на глазах у людей? Животное можно было поманить куском колбасы, вывести за территорию санатория, чтобы никто даже не догадался, что произошло. А так…

Нелюди те, кто приказал это сделать, и те, кто это выполнил!

**С уважением – Ванда Болеславовна СТАНКЕВИЧ.**
*Минск.*

ТАК ДУМАЮ

# Не ў рваных джынсах справа…

Я лічу, што вайну трэба аб'яўляць у першую чаргу бездухоўнаму выхаванню дзяцей і моладзі, а не рваным джынсам.

Раней прытрымліваліся прынцыпу «У чалавеку ўсё павінна быць прыгожым: і твар, і адзенне, і душа, і думкі». Людзі нават на працу саромеліся выхадзіць у рванай вопратцы. Песні, танцы, спартыўныя гульні і паводзіны адлюстроўвалі характва і спрыт цела, годнасць, добразычлівасць, павагу адзін да аднаго, любоў да Радзімы, родзічаў, блізкіх і суседзяў. Успомніце: вядучы аб'яўляе: «Вальс «Дунайскія хвалі» (альбо «На сопках Манчжурыі»)!..» А музыка якая гучала! Успомніце паланез Агінскага «Развітанне з Радзімай». Адны назвы танцаў нагадвалі нам пра дзядоў і прадзедаў – патрыётаў усіх эпох.

У савецкія гады стылягі-камсамольцы навязалі моладзі палавецкія скокі з дзікай музыкай плямёнаў з джунгляў. Ды і цяпер моладзь скача на дыскатэках пад дзікі лямант – галоўнае, каб усе хісталіся і трасліся з усім, што вісіць, як у прыступе эпілепсіі.

А якія прычоскі зараз вытвараюць! Як размалёўваюць сябе нават хлопцы!

Прыродная прыгажосць ужо не зберагаецца. Косы даўно не ў модзе, валасы ў любы колер вясёлкі фарбуюць, бровы малююць, грудзі і вусны напампоўваюць. Нават вынайшлі ніякі пол – яно.

Моладзь, атрымаўшы адукацыю, уцякае за кардон, бо там заробкі ў разы большыя, цэны ніжэйшыя. Нават аднаполыя шлюбы рэгіструюцца, і дзяцей можна купляць, як хатніх сабачак.

Вось куды вядзе наша пакаленне сусветная «цывілізацыя», пакуль нашы ідэолагі думаюць, а ці варта выхоўваць нашу слаўную моладзь.

**Расціслаў ВАШКЕВІЧ,**
**дырэктар нядзельнай школы прыхода храма праведнай Сафіі Слуцкай.**

НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ!

# Калі побач будзе стаяць дасведчаны калега…

Не змагла прайсці міма дыскусіі, распачатай Васілём Закрэўскім у №81 «Народнай Волі» публікацыяй «Шкада вітамінаў для пацыентаў бальніцы?» і падхопленай Віктарам Дударонкам у №84. Наконт вітамінаў нічога не скажу – у кожнага свой густ: адзін лічыць вітамінамі яблыкі, другі – зялёны гарошак, трэці – яшчэ штосьці. А вось вынесеная ў загаловак фраза Віктара Дударонка «Калі вены здаровыя, непашкоджаныя, ніводная медсястра не прамажа» зачапіла за жывое.

Я зразумела б спадара Дударонка, калі б гаворка ішла пра членаў алімпійскай зборнай па якімсьці відзе спорту. А тут – пра пацыентаў *кардыялагічнага* аддзялення шпіталя, у які па вызначэнні трапляюць людзі з праблемамі сардэчна-*сасудзістай* сістэмы. Там здаровыя, непашкоджаныя вены хутчэй выключэнне, чым правіла.

У той жа час, што і знаёмы Васіля Закрэўскага, у кардыялагічным аддзяленні 2-й клінічнай бальніцы Мінска ляжала мая свякроха. На харчаванне яна не скардзілася, а вось наконт уменняў і навыкаў сярэдняга медперсаналу казала пры кожным маім наведванні. Як яна зразумела, у аддзяленні працавалі не толькі вопытныя медсёстры, але і «свежанькія» выпускніцы медыцынскага каледжа. Цудоўныя дзяўчынкі – ветлівыя, вясёлыя, старанлівыя, але… не ў кожнай з іх атрымлівалася трапіць у вену.

Свякроха мая амаль паўстагоддзя аддала педагагічнай працы ў школе, дайшла да вышэйшага ўзроўню прафесійнай дасканаласці, як ніхто разумее, што ўменні і навыкі – справа нажыўная, усяму можна навучыцца – было б жаданне… і магчымасць. «Ды я згодна была б выступіць у ролі «выпрабавальнага палігона» – трэба ж гэтым дзяўчатам вучыцца. Але – калі б побач з імі ў гэты момант стаяў дасведчаны чалавек і кіраваў імі. А так атрымліваецца, што гэта вопыты на жывых людзях».

Майму тату праз цяжкае захворванне сасудаў ампутавалі нагу па верхнюю трэць сцягна. Тата быў сапраўдны баец – зрабіў усё, каб мы не адчулі, што побач з намі жыве інвалід. Лічыў за асабістую доблесць у паліклініку дабрацца самастойна. На жаль, пратэз у яго быў вельмі цяжкі і нязграбны, і максімум, што тата мог зрабіць, – гэта выйсці на ім на вуліцу і падыхаць паветрам ля пад'езда. На большыя адлегласці тата «скакаў» на мыліцах, якія называў сваімі крыламі. І вось аднойчы ён выправіўся ў паліклініку, каб зрабіць кардыяграму (можна было замовіць гэтую працэдуру на дом, але ж трэба было ведаць майго бацьку!). Праз нейкі час ён вярнуўся. «Так хутка?!» – здзівілася я. «Мне сказалі прыйсці пасля абеду. Медсястра не ведае, як зняць паказанні кардыёграфа з трох канечнасцяў». «А што, пасля абеду яна ўжо будзе ведаць?» – не стрымала сарказму я. «Яна патлумачыла, што ў другую змену прыйдзе чалавек, які ведае, як гэта зрабіць».

У майго таты пры ўсім яго жаданні і аптымістычным стаўленні да жыцця нага адрасці не магла. А вось што перашкодзіла той медсястры пазбавіцца сваёй прафесійнай «інваліднасці»? Гэта першы выпадак у гісторыі сусветнай медыцыны, калі трэба зняць кардыяграму з аднаногага чалавека? Нельга было паклікаць больш дасведчаную калегу ці патэлефанаваць той, якая павінна была прыйсці ў другую змену? Калі ласка, спадар Дударонак, перакanайце мяне, што прычына – «не ў кваліфікацыі медыцынскага персаналу, а ў самім пацыенце».

У апошні час модным тэмай тэлесерыялаў сталі медыцына і дзейнасць лячэбных устаноў. У адным з іх герой-урач іранічна кажа няўдачліваму інтэрну: «Гэта была б лепшая на свеце работа, калі б не ўсе гэтыя хворыя!» Калі б у шпіталях ляжалі здаровыя людзі з непашкоджанымі венамі, не было б неабходнасці не толькі ў прафесіяналізме сястрычак, але і ў самім медперсанале. Ці не праўда, спадар Дударонак?

**Аляксандра ЛОБЗАВА.**
*Мінск.*

РЭЗАНАНС

# Крык з-пад пяты

Хацелася б звярнуць увагу чытачоў на публікацыю Міхася Варанца «Хачу быць беларусам!» («Народная Воля» ад 9 лістапада). Чалавек вельмі правільна разумее сітуацыю і адпаведна дзейнічае.

І ў ГА «Таварыства беларускай мовы» ўжо не спрабуюць вырашаць моўную праблему кавалерыйскім наскокам «Даеш беларускую мову ва ўсе дзяржаўныя!» (раней такія заклікі час ад часу гучалі). Зараз варта дамагацца рэальнага, таго, што закладзена ў Канстытуцыі і ў Законе аб мовах, – роўнасці дзвюх дзяржаўных моў. Роўнасці, якой няма і да якой яшчэ вельмі далёка. Спадар Варанец прыводзіць шматлікія прыклады такой няроўнасці. Яшчэ больш такіх прыкладаў у маёй кнізе «Беларус у Беларусі. Эпісталярыі пра мову і маральнасць». І трэба настойліва і метадычна звяртаць увагу дзяржаўных органаў на гэтую неадпаведнасць Канстытуцыі: дзе яна, гарантаваная роўнасць?

Рускамоўны чыноўнік дае мне запоўніць бланк. Бланк на рускай мове. На маю просьбу даць бланк на беларускай мове здзіўляецца: «Вы что, русского языка не понимаете? Если хотите, заполняйте на белорусском».

Я рускую мову разумею. Валодаю ёю, мабыць, лепш за таго чыноўніка. І мне не патрэбны яго барскі дазвол запаўняць рускамоўны бланк па-беларуску. Я не разумею, чаму я, беларус, які жыве ў роднай Беларусі, не магу атрымаць бланк на сваёй – беларускай – мове. Я не разумею, чаму беларусы, якія не забыліся, у якой краіне жывуць, не трапляюць у дзяржаўны апарат.

Доктар, які выслухоўвае мяне, раптам перапыняе: «Говорите, пожалуйста, по-русски, а то я вас не понимаю». Што ж, для гэтага доктара я складу маленькі слоўнічак незнаёмых яму слоў (ныркі, страўнік, залоза, стрававод, пухліна, цягліца ды інш.), але я неяк перасмыкаюся ад патрэбы складаць такі слоўнічак для доктара-беларуса, які жыве і працуе ў Беларусі.

Любое памкненне беларуса карыстацца сваёй мовай і чакаць таго ж у адказ натыкаецца на здзекліва́е «Вы, что, русского не понимаете?!». Такога рускага я не разумею. Мы ўсё ж такі, спадзяюся, не пад акупацыяй. І крык душы Міхася Варанца «Хачу быць беларусам!» – гэта крык не аднаго чалавека, гэта крык нашай Бацькаўшчыны, якая з часоў А.Суворава ўсё яшчэ пад пятой суседа.

Быў нядаўна на экскурсіі ў Жылічах. Агледзелі палац паноў Булгакаў «Дабосна». Прыгожы будынак. Калі закончыцца рэстаўрацыя, ён будзе здольны канкурыраваць па прыгажосці з Мірскім і Нясвіжскім палацамі. Цікава пра гісторыю «Жылічскага Версаля» і яго гаспадароў распавяла дырэктарка музея Ларыса Забелава. Я звярнуў увагу, што інфармацыйныя таблічкі зроблены толькі на рускай мове.

– У нас планеуцца інфармацыя на рускай і англійскай мовах, – паведаміла спадарыня.

– А чаму беларускую ігнаруеце? – стала цікава мне.

– На беларускай мове не ўся тэрміналогія распрацавана.

Апошні адказ прагучаў з кепска прыхаванай агрэсіяй.

Гэта ў яе «не ўся тэрміналогія распрацавана». Але ж ёсць установы і арганізацыі, дзе яна ёсць. Звярніся на моўную кафедру ўніверсітэта ці хаця б у тое ж Таварыства беларускай мовы – і любую патрэбную тэрміналогію перакладуць. Што перашкаджае гэта зрабіць? Можа, проста вельмі зручна, каб «не ўся», – менш клопату з інфармацыйнымі таблічкамі.

А ў выніку палац беларускага магната Булгака (на Булгакава і не Булгакіна!) будзе аформлены таблічкамі толькі на мовах іншых дзяржаў. Вось такая ў нас павага да роднага!

**Міхась БУЛАВАЦКІ.**
*Магілёў.*

КАЛЕКТЫЎНЫ ЛІСТ

# Мітрапаліт Павел, вярніце нам бацюшку!

У артыкуле Віталя Гарбузава «Шукаю працу…» («Народная Воля» ад 19.10.2018) паведамляецца, што святар **Аляксандр Шрамко** адхілены ад царкоўнай службы за выказванне ў сацыяльных сетках абурэння з нагоды таго, што, калі натоўп вернікаў сабраўся перад саборам халодным вечарам, каб дачакацца выхаду да іх патрыярха Кірыла, паслухаць яго і паглядзець, як кажуць, «вочы ў вочы», той нават не спыніўся ля іх…

А Патрыярх Аляксій II (Царства яму Нябеснае!) падчас свайго колішняга візіту ў Мінск хадзіў хросным ходам разам з усімі вернікамі вакол сабора. І, мусіць, ва ўзнагароду за шчырае маленне патрыярха з шараговымі вернікамі Бог паслаў цуд: сонечным днём на небе з'явілася колавая вясёлка. Скажыце, хто і калі бачыў такі цуд на небе? Вернікі тады доўга замілоўваліся вясёлкай і шчыра маліліся, многія – нават укленчыўшы на маставой.

Мы, вернікі, якія не дачакаліся выхаду да нас патрыярха, просім Вас, Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Павел, папраўць зробленую памылку – вярнуць бацюшку Аляксандра Шрамко да царкоўнай службы. Гэта мы вінаваты, што ўголас выказвалі сваю незадаволенасць і падбілі яго агучыць наша абурэнне.

**З надзеяй на справядлівасць**
**Раман КАРПОВІЧ,**
**Вера ВАКУЛЬЧЫК,**
**Яўген ЗУШЧЫК,**
**Мікола ЛУШЫК,**
**Лена СЯРКО,**
**Н.ЛАЗОЎСКІ,**
**М.НОВІК.**

РЭЗАНАНС

# Кожнаму брату – па дукату, кожнай сястрыцы – па завушніцы

У «Народнай Волі» за 6 лістапада ў матэрыяле пра ўшанаванне памяці пісьменніка Вячаслава Адамчыка *(на фота)* мне дасталася незаслужаная пахвала за арганізацыю мемарыяльных мерапрыемстваў. Сапраўды, з падобнай ініцыятывай мне даводзілася выступаць 5 гадоў таму, калі адзначалася 80-годдзе нашага знакамітага земляка. Мы з сябрамі меркавалі, што добра было б на будынку чыгуначнай станцыі Навальня, дзе будучы пісьменнік працаваў, альбо на школе, дзе ён вучыўся, павесіць памятную шыльду. Вялося перамовы з адказнымі людзьмі, знаходзіліся і фундатары. Але тады, на жаль, мы не паспелі нічога зрабіць.

А сёлета настаўнік Круцілавіцкай школы **Сяргей Каско** змог пераканаць мясцовыя ўлады, кіраўніцтва ААТ «Граніт-Агра», жыхароў вёскі Babakomшчына, што ўшанаваць памяць В.Адамчыка на радзіме ўсё ж неабходна. Перапіска з сынамі пісьменніка, паездкі ў Гродна і Мінск з мэтай узгаднення розных пытанняў з уладамі, мастацкімі саветамі, таварыствам «Белрэстаўрацыя», фундатарамі, пошукі каменя-волата, збор асабістых рэчаў пісьменніка для школьнага музея, запісы ўспамінаў людзей, якія асабіста ведалі



В.Адамчыка, – усё гэта легла на плечы Сяргея Каско. Ён сам рыдлёўкай капаў катлаван пад фундамент, заліваў бетон, клаў плітку. Даводзілася часам працаваць пры святле фар уласнага аўтамабіля. Не паспеў нават выбраць бульбу на ўласных сотках – выкапаў пасля адкрыцця помніка. Пранікся ідэяй годна ўшанаваць свайго земляка і галоўны інжынер ААТ «Граніт-Агра» **Андрэй Падліпскі**, які дапамог патрэбным транспартам.

Вось гэтыя людзі, а таксама намеснік гендырэктара таварыства «Белрэстаўрацыя» **Аляксандр Клімашонак** і зрабілі галоўную справу ва ўшанаванні памяці Вячаслава Адамчыка.

Дапамагалі парадамі і супрацоўнікі Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея, раённай бібліятэкі, дырэктар Круцілавіцкай школы **Сяргей Гузоўскі**, старшыня Данілавіцкага сельсавета **Ганна Жых**.

Прызнацца, я вельмі рады, што на Дзятлаўшчыне з'явіліся людзі, якім малая Радзіма сапраўды дарагая. То і падзяка належыць ім. Як казалі ў народзе: кожнаму брату па дукату, кожнай сястрыцы – па завушніцы. Вельмі не люблю, калі мяне незаслужана ганьбяць, але ўдвая не падабаецца, калі без патрэбы хваляць. Таму вельмі прашу надрукаваць у Вашай шаноўнай газеце гэты допіс.

**Валерый ПЕТРЫКЕВІЧ.**
*г.Дзятлава.*

НОВОСТИ ИЗ БЕРЛИНА

# Больничный в Германии: как и почему его берут

*Еще никогда немцы не брали так часто медицинские бюллетени, как сейчас. С чем это связано?*



Эксперты подсчитали, что из-за болезней рабочих и служащих убытки немецкой экономики составили в 2016 году (последние данные) астрономическую сумму в 75 млрд евро. Каждый наемный работник в Германии отсутствовал на рабочем месте в среднем 17 дней в году. И на каждого пришлось почти 2000 евро «недостачи»! Так много не было еще никогда.

Отчасти это связано с тем, что в Германии, так сказать, легко болеть. ***Зарплата в этом случае полностью сохраняется в течение шести недель. Но и потом платят кассы медицинского страхования. Кроме того, на многих предприятиях первые три дня болезни можно не приходить на работу, не оформляя больничный – достаточно только предупредить работодателя.***

В Швеции и Великобритании, например, бюллетень обязателен только на восьмой день болезни, до этого начальство обязано верить сотруднику на слово. Правда, если он начинает этим злоупотреблять, с него могут потребовать больничный уже с первого дня. И работник обязан его предоставить.

Лидерами немецкой статистики по больничным листам являются не крупные мегаполисы и региональные центры, где в основном сосредоточены бюджетные организации федерального и земельного уровней в Германии, а относительно небольшие города, в первую очередь в промышленной Рурской области. Это Гельзенкирхен, Херне, Хамм, Хаген, Бохум, Оберхаузен, Золинген... Здесь средняя цифра пропущенных рабочих дней в году переваливает за два десятка.

По каким именно причинам немцы берут больничный? Это знают, кстати, только больничные кассы, так как врачи в больничном листе диагноз не указывают, и это не обязательно знать работодателю. Еще семь лет назад основная масса освобождений от работы приходилась в Германии на заболевания дыхательных путей, тяжелые простуды и ОРЗ (четвертая часть всех больничных листов 2009 года). Но сейчас в лидеры вышли недуги опорно-двигательной и костно-мышечной систем. ОРЗ, психические расстройства, разнообразные травмы намного отстали. Как говорят врачи, это результат того, что работа в основном стала сидячей.

# Рождественские елки будут дорогими

*По данным немецкого Федерального союза производителей рождественских деревьев, цены на ели вырастут в среднем на 0,5–1 евро до 24 евро за метр дерева.*

Связано это с жарким и сухим летом этого года. Засуха коснулась даже елей.

Например, в Бранденбурге предприятию Werderaner Tannenhof приходилось чаще поливать деревья в этом году. Им потребовалось около 20 тыс. кубических метров воды. Предприятие выращивает на 68 га земли около 350 тыс. деревьев. В прошлом году предприятие заплатило 6 тыс. евро за воду, в этом году расходы достигли 50 тысяч. Средняя цена ели Werderaner Tannenhof составляет сейчас 22 евро за метр. В среднем по стране цена за метр рождественского дерева составляет от 18 до 24 евро. В 2017 году самая высокая цена составляла 23 евро за метр.

Причиной подорожания также является увеличение транспортных расходов.

# Готовы платить мигрантам за возвращение домой

*Рекламная кампания в берлинском метро: беженцам, до 31 декабря уведомившим власти ФРГ о своем добровольном отъезде на родину, компенсируется годовая аренда жилья на новом месте.*




Министерство внутренних дел Германии с гигантских билбордов на станциях берлинского метро обращается к пассажирам на немецком, английском, арабском и даже русском языках с предновогодним спецпредложением. Это «дополнительное пособие на максимум 12-месячную оплату жилья в родной стране». Рекламная кампания, стартовавшая 13 ноября, рассчитана на 10 дней. МВД Германии потратит на нее порядка 500 тысяч евро. Плакаты изготовлены на семи языках – английском, немецком, французском, арабском, пушту, фарси и русском.

Целевая аудитория масштабной рекламной кампании – иностранцы, которым отказано в статусе беженца в Германии.

За первую половину 2018 года из Германии, по оценкам tagesschau.de, добровольно уехали 10.669 человек. А принудительно депортированы были 12.261. Разумеется, добровольный отъезд гораздо гуманнее, чем принудительная депортация, – никакого полицейского эскорта, принудительной посадки в самолет.

К тому же те, кто соглашается добровольно покинуть страну, получают финансовую помощь на покупку билетов и обустройство на родине. Да и для немецких властей это выгоднее как с точки зрения общественного мнения (принудительные депортации вызывают шквал критики со стороны правозащитных организаций), так и с точки зрения финансов. Стоимость чартерного рейса для высылки мигрантов в расчете на одного пассажира может в четыре-пять раз превышать расходы на обычный авиаперелет экономклассом в один конец.

По оценкам властей, стоимость принудительной депортации одного мигранта оценивается в среднем в 1500 евро. А в случае добровольного отъезда финансовые траты государственных структур сокращаются наполовину – до 700 евро (в среднем). В целях оптимизации расходов в Германии реализуются программы «добровольного возвращения», цель которых стимулировать мигрантов деньгами на отъезд домой.

Компенсационный пакет регулярно пополняется. Например, тот, кто решится уехать из Германии еще во время рассмотрения своего заявления о предоставлении убежища, может получить 1200 евро. А 800 евро заплатят тем, кто не будет подавать апелляцию на отказ и молча уедет из ФРГ в рамках предписанного срока. Злые языки называют эти выплаты «вали отсюда»-бонусами.

Сколько мигрантов уже воспользовались спецпредложением МВД, на данный момент не известно.



ГОРЬКАЯ ПАМЯТЬ

# Зачем кое-кто пытается залить сиропом сталинские времена?

*На днях наткнулась в «Фейсбуке» на очередного сталиниста. Морочил голову публике: мол, уже в первые послевоенные годы людям жилось в Беларуси в материальном плане неплохо. Хватало и еды, и товаров первой необходимости. В том числе и на селе. Попробовала возразить: мол, если партноменклатура и советские чиновники высокого ранга нужды не испытывали – и ели досыта, и одежда-обувь неплохая имелась, то у обычных людей с этим всем было реально хуже.*

*В ответ понеслось: очерняю великого Сталина и достижения страны под его руководством. На мою отсылку к советским учебникам истории постсталинского периода, этот идолопоклонник отстукал гневные фразы в адрес Хрущева: мол, тот исказил, сфальсифицировал, оклеветал вождя, измазал черной краской время его правления.*

*Что взять с невежды? Полно документов той поры, много сведений на этот счет в художественной литературе. Да и живых свидетелей еще немало, тех, кто был ребенком, подростком в те годы. А детская память цепкая.*

*Несколько месяцев я участвовала в сборе и подготовке к печати материалов для книги об истории Солигорщины послевоенного периода. Книгу планирует выпустить один из известных в городе бизнесменов. Было много встреч с людьми, в том числе и с теми, кто на себе прочувствовал, каково жилось в первые послевоенные годы. Привожу воспоминания некоторых из них.*

## Проверяющий облупил картошину и заплакал

Житель городского поселка Старобин **Иван Александрович Русак** родился в 1941 году в деревне Поварчицы ныне Солигорского, а тогда Старобинского района. Он помнит, как мужчины их деревни возвращались домой после войны. Маленький Ваня забегал к ним в хаты, они гладили его по голове, совали в руки гостинчик и виновато говорили, что ни его отца, ни его брата увидеть на фронте им не довелось.

Его отец, Александр Васильевич Русак, и его старший брат Николай погибли под Кёнигсбергом.

– *Осталось нас, детей, у мамы шестеро,* – рассказал Иван Александрович – *Первые послевоенные годы жили впроголодь. Мама работала в колхозе «Заветы Ильича» птичницей. За трудодни. На один трудодень выдавали 50 граммов жита. Мы собирали на полях гнилую картошку, которая осталась зимовать в земле после уборки, толкли ее, варили – это нередко была наша основная еда. Правда, летом было полегче – грибы, ягоды, рыба. Рыбы в канавах было так много, что мы ловили ее корзинками.*

*По закону семьи, в которых погибли два человека, освобождались от налогов. Но с мамы почему-то налоги брали. Помню, даже наши перьевые подушки хотели забрать, когда подати мама выплатить не смогла. Мама на колени встала перед уполномоченными, просила оставить подушки. Не платили нам, детям, также пенсию за погибшего отца. Мама не выдержала и написала письмо Сталину. Это было в 1948 году. Письмо ее перехватили в Минске. К нам домой приехал проверяющий из ЦК КПБ. Мы, дети, сидели на печи, а он в нашей старой, вросшей в землю хате за столом – молодой, красивый мужчина. Мама предложила ему картошку в мундирах. Больше из еды в доме ничего не было. Он облупил одну и вдруг заплакал. Сказал, что не верил письму, пока не увидел собственными глазами, что мы, семья погибшего фронтовика, так... выживаем. После его отъезда нам сразу стали выплачивать пенсию за отца и сняли с нас налоги. По крайней мере мы больше не сидели без хлеба, мама иногда даже сахар покупала».*

## «Чтобы нас накормить, мама рисковала»



А вот что вспоминает о том времени жительница деревни Ситенец Солигорского района, ветеран труда ОАО «Старобинский», в прошлом доярка и заведующая молочной фермой **Анна Николаевна Царик,** 1940 года рождения:

*«Исполнилось мне 8 лет, когда я пошла пасти свиней, овечек жителей деревни. Кто давал бутылочку молока за это, кто огурчиков с огорода, кто два-три яйца или хлеба немного. Мы с младшей сестрой в то время часто голодными спать ложились. Маме, правда, говорили, что не голодны, когда она спрашивала, хотим ли мы есть. Знали, что в хате в те вечера хоть шаром покати и ничем накормить она нас не может. Так чего ее еще больше расстраивать?*

*Мама работала в колхозе «Заветы Ильича» свинаркой. Картошку свиньям на ферме варила. Мы с сестрой прибежим к ней на ферму, она нам несколько вареных картошек в подол бросит. Еда!*

*Когда маму послали убирать лен, то она ухитрялась немного семян принести домой. Парили мы это семя в печи и ели с картошкой. Если бы поймали маму с теми семенами, то в тюрьму вполне могли упечь. Рисковала она. Помню, как пришел к нам в хату уполномоченный. Кричал на маму, грозился отправить ее на нары, если не сдаст продуктовый налог на подворье. Налог сдавать нам было не с чего. Свиней своих мы тогда не держали.*

*Но как-то беда нас тогда миновала. Наверное, родственники все-таки нашли это мясо для государства. 36 килограммов нужно было сдать.*

*В школу мы ходили в ситцевых платьях, сумок для книг не было. Я книги перевязывала веревкой, так и несла. Обувь зимнюю нам мама шила сама из каких-то кусочков войлока. Выручала швейная машинка, единственная на ту пору ценная вещь в доме.*

*В 16 лет, это было в 1956 году, мне удалось устроиться на стройку в Старобин подсобной рабочей. Первая моя зарплата – 900 рублей (это было до деноминации). Как наша семья радовалась этим деньгам! Раздали сразу все долги, купили много продуктов. Даже сахара, помню, купили. Сахар был до этого в нашей семье большой роскошью. Мы его почти не видели. Мама иногда только конфеты-подушечки покупала. И халву. Халва дешевая была. До сих пор на нее смотреть не могу».*

Из воспоминаний ветерана труда ОАО «Старобинский» **Владимира Петровича Керножицкого**. Ушел на заслуженный отдых в 2001 году с должности заместителя директора совхоза по хозяйственной части, проработав еще четыре года на пенсии.

*«Урожайность в колхозе «Ударник», где я подростком в начале 1950-х уже вовсю трудился, была слабая, техники мало, ручной труд. Люди работали от темна до темна, а иной раз и ночью. Помню, как в три часа ночи мы ездили за торфяной крошкой. Мужчин в колхозе в 50-е годы было мало, а те, что были, преимущественно пожилые. Основная нагрузка ложилась на плечи женщин и подростков. Денег на трудодни до 1955 года почти не выдавали. Пока не снизили налоги на подворья, жили люди совсем бедно. Помню, мне в те годы постоянно хотелось есть. Весной ходил на картофельные поля, искал картошку, клубни которой кое-где оставались в земле после сбора осеннего урожая. Но при этом люди помогали друг другу. Может, потому, что еще хорошо помнили войну и верили в будущее?»*

А вот сведения, которые можно почерпнуть из документальных источников. В первые послевоенные годы в колхозах особенно не хватало инвентаря, машин, тракторов. Коней и тех было мало, пахали часто на коровах, нередко люди сами впрягались. В колхозах народ работал за трудодни. Именно трудодень был единицей учета труда колхозников. В зависимости от количества выработанных трудодней распределяли и доходы. Трудно было развивать личное хозяйство. С приусадебных хозяйств колхозников брали непомерно большие налоги. С каждого двора требовали сдавать молоко, мясо, яйца… Несколько лет после войны были налоги на плодовые деревья, ульи, скот, птицу, которые принадлежали колхозникам на правах личной собственности.

Только после того, как в августе 1953 года Верховный Совет СССР принял новый Закон о сельскохозяйственном налоге, жить и работать в колхозах стало полегче: снизились размеры обязательных поставок с личных подворий, были подняты заготовительные цены на сельхозпродукцию. В том же 1953 года государство списало задолженности с колхозов, отменило централизованные задания плана сева в гектарах и по каждой культуре, сколько и какого скота содержать. Вместо этого колхозам и совхозам доводился общий обязательный объем продаж продукции государству. Колхозы республики стали крепнуть, но для многих хозяйств процесс этот по ряду причин был крайне медленным.

Заметим: послабления для колхозов, некоторые улучшения в жизни сельских жителей начались только после смерти Сталина.

## 1970–1980-е годы вспоминают хорошим словом

С середины 60-х, после того как на предприятиях и в колхозах начали внедрять систему хозрасчета и в результате появилась реальная возможность для роста зарплат, доходы обычных тружеников ощутимо пошли вверх.

**Из воспоминаний бывшего работника совхоза «Старобинский» пенсионера Дорофея Дорофеевича Баритоля:**



*«Помню, что в 1965–1966 годах я, тракторист, зарабатывал в среднем 150 рублей в месяц. Техники, машин, тракторов прибавлялось. Люди повеселели, стали лучше одеваться, питаться. В наших Листопадовичах в 1967 году совхоз построил новый клуб, вечера там устраивали, кружки для ребятни открыли, праздники проводили. В общем, новый уровень жизни».*

**Из воспоминаний ветерана труда ОАО «Старобинский» Владимира Петровича Керножицкого:**



*«Ввели хозрасчет, каждый реально почувствовал, что на размер своего заработка теперь влияет он сам. Качество его работы, отношение к делу влияют на то, какую сумму ему в день получки выдадут. Старики и те с удовольствием на работу стали ходить. Было впечатление, что и у них сил прибавилось. Условия труда улучшались».*

Это уже время, когда руководителем СССР был Леонид Брежнев, а в БССР руководил Петр Машеров.

Вспоминает **Дорофей Дорофеевич Баритоль:**

*«В конце семидесятых годов техники в совхозе уже хватало. На фермах появилась механизация. За условиями содержания скота, за чистотой на фермах был строгий контроль. Толковых ответственных работников руководство поддерживало. Премии, поощрения, грамоты. Меня, к примеру, всем этим не обделяли. Мою фотографию на районную Доску почета в 1978 году поместили. Да, мне это было приятно. Я сперва в совхозе трактористом работал, а с 1971 года на ферму крупного рогатого скота перешел, бычков выращивал и откармливал. 240 голов у меня с напарником было. Зарплата у меня была в среднем 250 рублей в месяц, бывало и по 300 рублей выходило. Плюс 13-я зарплата каждый год».*

А вот что рассказала крестьянка **Мария Ахметовна Бобко**, которая работала дояркой в колхозе «Большевик» Солигорского района, а потом телятницей в том же хозяйстве.



*«Зарабатывали у нас в 1980-е годы хорошие доярки и телятницы по 400 рублей советских. Помню, приезжал на ферму тогдашний председатель колхоза Дмитрий Павлович Назарчук, шутил: «Опять Ахметовна зарплату больше моей получила». Когда Советский Союз развалился, у меня на вкладе 40 тысяч советских рублей сгорели. Лукашенко, когда мы его первый раз выбирали, обещал вернуть вклады хотя бы товарами, но, наверное, не получилось».*

(Окончание на 6-й стр.)

АСОБА

# Анастасія САРОКІНА: «Дзядзька казаў так: «Жанчыне не месца ў шахматах»

*Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі шахмат і кіраўнік беларускай федэрацыі расказала «Народнай Волі» пра аўстралійскі этап жыцця, свайго знакамітага дзядзьку Віцю і шахматныя перспектывы Беларусі.*



## …І мора па калена!

**– Анастасія, найперш хацелася б даведацца, якім ветрам вас занесла ў 2003 годзе ў Аўстралію.**

– Усё пачалося з майго дзядзькі Віці, якога многія больш ведаюць як вядомага шахматыста Віктара Купрэйчыка. Калі я была яшчэ маленькая, перад чэмпіянатам свету, на які збіралася і я, дзядзька падарыў мне цацку – мішку каалу. Ён стаў маім талісманам. На першынстве падчас кожнай партыі, калі садзілася за дошку, побач быў мішка. А перад апошнім турам ён згубіўся недзе ў аўтобусе. Я ўсю ноч плакала, а затым загадала сабе: калі заўтра не прайграю, то вырасту, з'еду ў Аўстралію і там куплю сабе такога ж каалу.

Не паверыце, але тая дзіцячая гісторыя не пакідала мяне ніколі. І калі ўжо з'явіўся інтэрнэт, папрасіла сяброўку з добрым веданнем англійскай мовы пашукаць для мяне ў Аўстраліі шахматныя школы. Адправіла туды сваё рэзюмэ, і ў хуткім часе прыйшло запрашэнне.

**– На рызыкоўны крок пайшлі – ехаць працаваць за тысячы кіламетраў…**

– У пэўным сэнсе так, і зараз я разумею, што гэта была авантура. Кантракт у мяне быў не з фіксаваным заробкам, таму плацілі за працу пагадзінна. А яе спачатку было не так і шмат. Ездзіць даводзілася ў розныя куткі горада, таму ўзяла машыну ў крэдыт, з гэтым дапамог працадаўца.

Але ж я была ў краіне сваёй мары – Аўстраліі! Гэта быў своеасаблівы экспромт, а калі ты малады, то табе і мора па калена. І, напэўна, калі б зараз сказалі паўтарыць той учынак, то зрабіла б тое самае. Цяжкасцяў хапала, але я набыла вялікі жыццёвы вопыт. У Беларусі ў той час мяне ўжо ведалі як шахматыстку, быў нейкі базавы аўтарытэт, а там усё давялося даказваць з нуля.

Спачатку заробак быў не вельмі вялікі, але хапала. У маладых крыху іншыя патрэбы і погляды. А зараз, калі ўспамінаю, як ездзіла за 130 кіламетраў, каб правесці адзін урок шахмат, мне гэта падаецца проста неверагодным. Раней усё было проста.

**– Ці спраўдзіліся вашы чаканні ад Аўстраліі?**

– Мне ўсё там спадабалася. Зялёны кантынент, неверагодна прыгожая прырода… Складанасці былі іншага характару. Калі ў Беларусі табе дрэнна, то ты можаш пайсці да любога больш-менш блізкага чалавека і, як кажуць, паплакацца ў яго на плячы. У Аўстраліі так не прынята. Там людзі трымаюцца на адлегласці. Такі менталітэт. Пасля васьмі вечара нікому не патэлефануеш, бо гэта лічыцца верхам бескультур'я. Размовы па шчырасці – рэдкі выпадак. Там даводзілася жыць сваім жыццём, і ў маральным плане гэта было складана.

Праўда, праз нейкі час пазнаёміліся з цыркавымі артыстамі з Украіны, якія таксама прыехалі на заробкі. Пасябравалі, я нават з'яўляюся хроснай маці іх дачкі, і мы да гэтага часу падтрымліваем сувязь. Адным словам, быў невялікі круг людзей для зносін. Акрамя таго, на працы можна было весці размовы. Аўстралійцы – гасцінныя людзі, але блізка да сябе не падпускаюць.

**– Планавалі, колькі часу там будзеце працаваць?**

– На той момант пра гэта нават не думала. Першапачаткова падпісала гадавы кантракт, затым пераехала ў іншую кампанію і іншы горад. Мельбурн мне больш за ўсё спадабаўся. Там нават з людзьмі было лягчэй кантактаваць, бо гэта такі шматнацыянальны горад, дзе мноства эмігрантаў. Нейкія спартыўныя падзеі пастаянна адбываліся. Памятаю, нават хадзіла на Адкрыты чэмпіянат Аўстраліі па тэнісе, калі гуляла наша Віка Азаранка. Я там год адпрацавала, а затым паспрабавала адкрыць сваю шахматную школу.

**– Паспяхова?**

– Шахматныя школы ў Аўстраліі і Беларусі адрозніваюцца. У нас школа – гэта будынак, куды дзеці прыходзяць і вучацца гуляць у шахматы. А ў Аўстраліі педагогі самі ездзяць па прыватных альбо дзяржаўных агульнаадукацыйных школах і там вядуць шахматны гурток. Ніякі будынак нават арандаваць не патрэбна. Можна было заключаць дамовы наўпрост са школамі, і па такой сістэме я пачала працаваць. Мне яшчэ дапамагаў мой добры сябра з Латвіі Лёня Сандлер.

**– Прыбытковы быў бізнес?**

– Скажам так, грошай хапала, каб здымаць кватэру, харчавацца і купляць білеты, каб калі-нікалі злятаць у Мінск. Дарэчы, кватэры там нятанныя, ды і кошт білета да Масквы з Мельбурна – каля тысячы долараў. Калі прылятала дадому, не хацелася вяртацца. А на Зялёным кантыненце цягнула на радзіму. І ў нейкі момант я зразумела, што доўга жыць у Аўстраліі не змагу. Не хачу хваліцца, але я, напэўна, патрыёт.

### ВІЗІТНАЯ КАРТКА

***Анастасія САРОКІНА.*** *Нарадзілася 26 студзеня 1980 года ў Мінску.*

*Міжнародны майстар спорту па шахматах, міжнародны арбітр і трэнер ФІДЭ.*

*З 19 мая 2017 года – старшыня Беларускай шахматнай федэрацыі. У кастрычніку 2018 года абрана віцэ-прэзідэнтам ФІДЭ.*

## Знакаміты дзядзька Віця

**– А як ваш дзядзька Віктар Купрэйчык успрыняў ваша жаданне працаваць шахматным трэнерам у Аўстраліі?**

– Ён заўжды падтрымліваў усе мае рашэнні. Адзінае рознагалоссе заключалася ў тым, што дзядзька Віця быў катэгарычна супраць, калі бацькі вырашылі аддаць мяне ў шахматы. Ён казаў так: «Жанчыне не месца ў шахматах». Мяне гэта крыху чапляла, і я заўсёды марыла: «Вось вырасту, стану вядомай у шахматным свеце, і людзі не будуць мяне называць «пляменніцай Віктара Купрэйчыка». А можа, і так стануць казаць: «Віктар Купрэйчык – гэта дзядзька Анастасіі Сарокінай».

**– Вы гулялі з ім у шахматы?**

– Ніводнага разу, ён мяне не ўспрымаў як шахматыстку! Больш за тое – нават ніколі не трэніраваў мяне. Дзядзька, як я ўжо казала, вельмі скептычна ставіўся да жаночых шахмат. І не таму, што жанчын не любіў, а, напэўна, лічыў, што гэты від спорту – складаная праца, з якой добра могуць справіцца толькі мужчыны. А вось шахматнай літаратурай ён мне дапамагаў, тут падтрымка была добрая. Калі зараз я еду на нейкія спаборніцтвы, у мяне з сабой чамадан адзення, а тады я ездзіла з торбай кніг.

**– Віктара Давыдавіча не стала 22 мая мінулага года. У апошні час вы падтрымлівалі з ім сувязь?**

– Увесь час. Але дзядзька Віця заўсёды настолькі баяўся даставіць каму-небудзь нязручнасць, што наўпрост мне тэлефанаваў вельмі рэдка. Думаў, што я вельмі заняты чалавек. Таму спачатку набіраў нумар сваёй сястры, маёй мамы, і пытаўся ў яе, ці можна патэлефанаваць Насці. Хаця не скажу, што мы шмат бачыліся. У мяне была свая праца, дзядзька таксама да апошняга ездзіў па розных турнірах. Шахматы былі яго жыццём, гэта не гучныя словы.

**– Я ведаю, што на турнірах ветэранаў ён выйграваў, атрымліваў нейкія прызавыя і за гэтыя грошы адразу ж у краіне, дзе праводзіліся спаборніцтвы, яму рабілі медыцынскія працэдуры.**

– Такое было, бо яму пастаянна быў неабходны гемадыяліз. Звычайна дачка дзядзькі Віці дамаўлялася з арганізатарамі, каб тыя дамовіліся з мясцовымі медыкамі. Прапускаць працэдуры нельга было, а дзядзька не збіраўся прапускаць турніры.

## Вяртанне

**– Калі вярнуліся ў Мінск, то з чаго пачалі?**

– У 2009 годзе ў Аўстраліі я нарадзіла дачку. Вярнулася з ёй дадому і пэўны час займалася толькі сямейнымі справамі. А далейшы мой лёс, можна сказаць, прадвызначыў выпадак. Пазваніў знаёмы, спытаўся, дзе можа займацца шахматамі дзіця, якому тры з паловай гады. І аказалася, што няма ў нас такіх школ. Ніхто з трэнераў не захацеў мець вучняў такога ўзросту. А я па сваёй дачцэ бачыла, наколькі хутка схоплівае інфармацыю гэтае новае пакаленне. Знаёмы тады запытаўся: «Можа, ты патрэніруеш?» «Наогул не планавала трэнерскай працай займацца, – адказваю. – А што, калі школу для такіх маленькіх адкрыць?..»

Так усё і закруцілася. Зрабілі сайт, адкрылі «Школу шахмат», знайшлі невялікае памяшканне ў Палацы шахмат і шашак. Памятаю, першы набор быў – чатыры групы па восем дзетак. Бацькі з задавальненнем адгукнуліся, а сама я тады пачала пісаць праграму для такой узроставай катэгорыі.

**– Гэта быў бізнес-праект?**

– Было б няправільна так казаць. Так, бацькі аплачваюць навучанне дзяцей, у сярэднім яны плацяць 60 рублёў у месяц. Але ў нас такія плошчы, якія мы арэндуем, і столькі трэнераў, якім трэба плаціць заробкі, што пра нейкі вялікі прыбытак казаць не даводзіцца. Таму школа платная толькі для таго, каб выжываць. Гэта не той бізнес, на якім можна добра зарабіць, хаця сёння ў нас займаецца каля 250 дзяцей. Дарэчы, школа ўжо атрымала ліцэнзію Міжнароднай федэрацыі шахмат.

## Новыя вышыні

**– Для вас было нечаканасцю абранне на пасаду старшыні Беларускай шахматнай федэрацыі?**

– Для мяне гэта быў вельмі складаны перыяд у жыцці, бо амаль у той жа час памёр дзядзька Віця. Усё здарылася дастаткова нечакана, гэта быў сакрушальны ўдар… Таму ад абрання старшынёй федэрацыі не было практычна ніякіх эмоцый – ні нечаканасці, ні радасці. Я ўвогуле дрэнна разумела, што адбываецца наўкол, але для сябе тады вырашыла: зараз буду працаваць, як кажуць, за сябе і за таго хлопца. Не заўсёды ў нас з дзядзькам Віцем супадалі погляды, але тое, што абое мы любілі шахматы, – гэта безумоўна. І, мяркую, ён вельмі радаваўся б, што ў Мінску ў 2022 годзе пройдзе Сусветная шахматная алімпіяда.

**– Амаль месяц таму вы атрымалі яшчэ адну крутую пасаду – віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі шахмат…**

– Яшчэ раней было вядома пра адстаўку цяпер ужо былога кіраўніка Міжнароднай федэрацыі шахмат Кірсана Ілюмжынава, і ён нават не вылучаў сваю кандыдатуру падчас апошніх выбараў. Новым старшынёй, як вядома, стаў былы віцэ-прэм'ер Расіі Аркадзь Дварковіч, а мяне дэлегаты са 186 краін абралі праз галасаванне адным з яго намеснікаў. Дарэчы, бацька Аркадзя Уладзіміравіча быў вядомым шахматным суддзёй, таму мы, можна сказаць, з ім калегі. А мяне даўно ўжо ведаюць у міжнародных шахматных колах, бо я і сама гуляла на спаборніцтвах, і судзіла.

**– А што дасць краіне правядзенне ў Мінску Сусветнай шахматнай алімпіяды?**

– Па-першае, гэта будзе даволі масавае мерапрыемства. У беларускую сталіцу прыедзе каля 2000 шахматыстаў! Прыкладна столькі ж чалавек іх будуць суправаджаць. Дадайце сюды журналістаў, бізнесменаў і дэлегатаў, якія прыедуць на кангрэс ФІДЭ… Адным словам, тры тыдні жыццё ў Мінску будзе віраваць ад вялікай колькасці турыстаў, хіба гэта кепска для краіны? Ды і сама Сусветная шахматная алімпіяда – вялікая падзея для любой краіны.

**– Некаторыя могуць сказаць: «Шахматная алімпіяда – нуднае відовішча. Вось чэмпіянат свету па хакеі!..»**

– Кожнаму, безумоўна, сваё. З пункту гледжання відовішчнасці шахматы, можа, і саступаюць таму ж хакею, таму столькі гледачоў, як на хакейным першынстве, канечне, не будзе. Але прыйдуць тыя, хто любіць і разумее гэты від спорту. Спадзяюся, што пасля алімпіяды шахматы стануць у нашай краіне яшчэ больш папулярныя.

**– Прыезд у Мінск вядомага беларускага гросмайстра Барыса Гельфанда, які апошнім часам жыве ў Ізраілі і выступае за гэтую краіну, ваша ініцыятыва?**

– Думаю, гэта жаданне ўсіх аматараў шахмат, бо Барыс Абрамавіч ужо доўгі час не быў у Мінску. Агульнымі намаганнямі нашы планы здзейсніліся, і Барыс Гельфанд з задавальненнем завітаў да нас у госці. Да слова, ён і вядомая шахматыстка Мая Чэбурданідзэ пагадзіліся быць пасламі добрай волі на алімпіядзе, якая пройдзе ў Мінску. Думаю, спаборніцтвы прыйдуцца даспадобы ўсім.

**– А ваша дачка шахматамі займаецца?**

– Яна ўмее гуляць, але ў яе крыху іншыя захапленні – тэніс, фартэпіяна, вывучэнне англійскай мовы. Хаця падчас вечарамі з татам садзіцца за шахматную дошку.

**– Муж, наколькі мне вядома, таксама да шахмат мае ўскоснае дачыненне…**

– Дзяніс – філолаг, выкладчык польскай і беларускай моў. Заснавальнік культурніцкай інтэрнэт-платформы «Litara-A», якая ставіць сабе на мэту падтрыманне сусветнай літаратуры і мастацтва. Там нярэдка вядомыя людзі чытаюць вершы на беларускай мове.

**– А дома на якой мове размаўляеце?**

– Дзяніс размаўляе ў асноўным на беларускай мове, а я, на жаль, яе не вельмі добра ведаю. А непрыгожа размаўляць не хочацца. Дарэчы, якраз падумала: «А чаму б не вывучыць мову да Сусветнай шахматнай алімпіяды?» Таму, мяркую, замежных гасцей буду ўжо сустракаць словамі «Сардэчна вітаем!».

**Алесь СІВЫ.**

СМУТАК

# «Ён шмат паспеў за гэты час…»

*У мінулую нядзелю на 48-м годзе жыцця памёр вядомы беларускі футбаліст і трэнер Уладзімір Журавель.*



Уладзімір Журавель выступаў за мінскае «Дынама» з 1989-га па 1997 год, быў капітанам каманды, шэсць разоў у складзе клуба станавіўся чэмпіёнам Беларусі і два разы выйграваў Кубак краіны.

Пазней, калі ўжо скончыў кар'еру футбаліста, працаваў трэнерам у мінскім «Дынама», жодзінскім «Тарпеда», брэсцкім «Дынама» і салігорскім «Шахцёры».

*«Апошнім часам Уладзімір Журавель трэніраваў карагандзінскі «Шахтер», але хвароба прагрэсіравала, і яму давялося пакінуць сваю пасаду*, – паведаміў клубны сайт мінскага «Дынама». – *Уладзімір Іванавіч з хваробай змагаўся доўга і мужна, але лёс распарадзіўся інакш ...»*

*«Досыць стабільны быў ігрок*, – успамінае былы футбаліст сталічнага «Дынама» Валерый Мельнікаў. – *І трэнер з яго атрымаўся нядрэнны. Многія ў футбольных колах ведалі, што Валодзя цяжка захварэў, дапамагалі яму і падтрымлівалі. Сам ён быў даволі спакойны чалавек, не любіў скандалаў і канфліктов. Не ведаю людзей, якія маглі б сказаць пра яго дрэннае слова. Вельмі шкада, што сышоў так рана. Хаця і за гэты час ён вельмі шмат паспеў зрабіць у жыцці».*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Развітанне з Уладзімірам Жураўлём адбудзецца 20 лістапада з 11.00 да 14.00 у канцэртнай зале «Мінск».*

КРЫЖАВАНКА

# «Восень прала кужаль тонкі»

*Прысвячаецца хлебаробам Беларусі*



**Па гарызанталі:** 3.«Купіце ў бабулі … –//З любоўю яго складала.//Астраў чырвоных, ліловых//У садзе сваім набрала» – з верша Т.Сямёнавай «Кветкі позняй восені». 9.Невялікае хвойнае дрэва. 10.Адходы пасля ачысткі бульбы. 11.«Печаў усіх … –//Бульба плыве ў чыгунку» – з верша С.Законнікава «Дома». 12.Аднагадовая алейная і кармавая расліна. 14.«Беларускай бульбе слава//Ходзіць шумна з краю ў …» – з верша В.Голуба «Бульба». 15.Увосень за … просім (прык.). 17.Хто жывёлу даглядае, той мяса і … мае (прык.). 19.Тое, што і сканане. 20.Без ветру і кляновы … не зварухнецца (прык.). 22.«Рада, рада наша гаспадыня,//Што … дажала, рада, рада!» – з беларускай народнай песні «Рада перапёлка». 23.Тое, што і біяполе. 24.Пара ўборкі ўраджаю. 31.«Трапіш да кабеціны рахманай –//Паспытаеш, друг мой дарагі,//Дранікі са свежаю смятанай,//Бабку, …, нават пірагі» – з верша П.Панчанкі «Бульба». 32.Бацькі елі журавіну, а ў дзяцей … на зубах (прык.). 33.Тое, што і неўраджай.

**Па вертыкалі:** 1.«Хлеб – знак любові і духоўнага багацця,//З чым і жыве пад сонцам …» – з верша М.Курылы «Песня пра хлеб». 2.Хлеб над панамі … (прык.). 3.Аснова, на якой грунтуецца што-небудзь (кніжн.). 4.Прэснаводная рыба. 5.Стракатая ваўняная матэрыя. 6.Частка зямельных угоддзяў. 7.Спічастая вяршыня гары. 8.Беларускі народны інструмент у выглядзе дудкі з раструбамі. 13.Тое, што і сальніца (разм.). 14.Па сенажаці паўзе, траву грызе (заг.). 16.Пляцоўка для абмалоту збожжа. 18.«… на грыбы не скупіцца,//Пуні хмялеюць ад сена» – з верша М.Танка «У беларускую восень». 19.Штучны вадаём. 21.Ад ранні да ночы на поле стракоча (заг.). 25.«… у нас заўсёды смачны,//Але дранік – найсмачней» – з верша М.Геца «Дранікі». 26.Месца стаянкі суднаў каля берага. 27.Тое, што і жвір (разм.). 28.Плады, якія апалі ад ветру. 29.«Восень прала кужаль тонкі –//Павуціння белы …» – з паэмы Я.Коласа «Сымон-музыка». 30. … крыніцай б'е, а жнец сваё бярэ (прык.).

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 3.Букецік. 9.Елачка. 10.Лупіна. 11.Гаспадыня. 12.Рапс. 14.Край. 15.Стол. 17.Сала. 19.Скон. 20.Ліст. 22.Жыта. 23.Аўра. 24.Уборачная. 31.Клёцкі. 32.Аскома. 33.Недарод.

**Па вертыкалі:** 1.Беларус. 2.Пан. 3.База. 4.Карп. 5.Цвід. 6.Клін. 7.Пік. 8.Жалейка. 13.Салянка. 14.Касілка. 16.Ток. 18.Лес. 19.Сажалка. 21.Трактар. 25.Блін. 26.Рэйд. 27.Чвыр. 28.Апад. 29.Лён. 30.Пот.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.

nvonlineinfo@gmail.com

http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



9 772071 964000 18092

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 19.11.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 010 экз. Заказ № 4090.